ГОД V ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ № 6 (45)
1951 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

ЗЬМЕСТ



« SUR LA VOIE DIVINE »

BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL

Année V. N° 6 (45) Novembre-Décembre 1951

51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI^e

**Перадплата «Божым Шляхам» на 1951 г.**

| | За адзін нумар | На год |
|---|---|---|
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo 95, rue de Sèvres, PARIS VI<sup>e</sup>.

У АНГЛІІ:

Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У АРГЭНТЫНЕ:
Sr. Juzefovic Henryk, Calle Irala 1510 Dock Sud, BUENOS AIRES.

У АЎСТРАЛІІ:
Mr. Jackievicz Donat, 60 Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.

У БЭЛЬГІІ:
Mr. Vostrykau Michel, 19, Place Hoover, LOUVAIN.

У НЯМЕЧЧЫНЕ: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**КНІЖКІ ДА НАБЫЦЬЦЯ.**

У Беларускіх Каталіцкіх Місіях у Лёндане і Парыжы можна купіць наступныя беларускія кніжкі:

Друя В. — Ты і яна. 250 фр — 6 шыл.
а. Л. Гарошка — Душа 40 фр. — 1 шыл.
а Л. Гарошка — Паходжаньне чалавека 20 фр. — 10 пэн.
а. Л. Гарошка — Сьв. Еўфрасіня — Прадслава Полацкая 130 фр.— 3 шыл.
Г-і Я. — Наша Краіна. Літаратурная чытанка 300 фр. — 6 шыл. 10 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 2 — 30 фр. 15 пэн.
Г-і Я. — Казкі № 3 30 фр. 15 пэн.
Равенскі М. Арсеньева Н. — Магутна Божа. Песня з нотамі. — 5 фр. 3 пэн.
Народная казка — Музыка і чэрці 40 фр. 1 шыл.
Сяднёў М. — Цень Я Купалы 30 фр. 15 пэн.
Каваль П. — Беларусь у датах ,ліках і фактах 250 фр. 6 шыл.
Змагар А. — Случчакі-Апавяданьне—100 фр. 2 ш.
Змагар А. — Рэпка-казка — 30 фр. 15 пэн.
Малітаўнік «Божым шляхам» 80 фр. 2 шыл.
Малітаўнік «Holas Dušy» 200 фр. 5 шыл.
Паштоўкі з беларускімі краявідамі — 15 фр. 8 п.
Камплет часапісу «Божым шляхам» за мінулыя гады 1200 фр. 1 ф. 10 шыл.
M. Bahdanovic — Weissruthenischer Heimat. Lyrik — 50 фр. 2 шыл.

Зьвяртацца на адрасы: У Францыі:
R. P. Horosko Leo, 95, rue de Sèvres, Paris VI.

У Англіі: Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.

У Нямеччыне: Weissruthenischer Caritasdienst in Deutschland. (20b) Goslar/Harz, Sommerwohlenstrasse 1 A.

**У В А Г А !**

Усю карэспандэнцыю для рэдакцыі «Божым шляхам» просіцца высылаць на вышэйпаданы асаблісты адрас адказнога рэдактара а. Л. Гарошка.

**Рэдакцыя.**

# З беларускае народнае мудрасьці

Які розум, такая й гаворка.
Які салавей, такая яго й песьня.
Як мы да Бога, так і Бог да нас.
Як ні хадзі, сьмерці не абмінеш.
Як няма ахвоты, то няма й работы.
Які ў ядзе, такі ў хадзе.
Якое ёсьць мейсца — ня зрушайся; на адным мейсцы і камень абрастае.
Як пасееш, так і пажнеш.
Як пасьцелеш, так і высьпішся.
Як працуеш, так і маеш.
Як Серка кормяць, так Серка і брэша.
Як стане ліха, ня ўседзіш ціха.
Як ты к людзям, так і людзі к табе.
Як ты чорта мёдам ня маж, а ён усё дзёгцем сьмярдзіць.
Як у мяне шпонка ўдалася, адкуль і радня ўзялася; як у мяне шпонка не ўрадзіла, адраклася і радзіна.
Як хто хоча, так па свойму гору плача.
Яслі да каня ня ходзяць.
Яшчэ той не радзіўся, хто-б усім дагадзіў.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год V. ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ. 1951. № 6 (45).

# Калядныя думкі

Ужо бяз мала дзьве тысячы разоў увесь хрысьціянскі сьвет азначае сьвята Нараджэньня Хрыста і іншыя падзеі з Ягонага жыцьця. За гэты час місіянары абышлі ўсё закуткі Зямлі, дык здавалася-б, што ўжо ўсюды людзі павінны пазнаць Хрыста і Ягоную навуку. Нажаль ёсьць інакш.

У наш век, у найбольшых культурных цэнтрах, здараюцца такія гісторыі: падчас другое сусьветнае вайны ў адну парыскую больніцу прывезьлі сьмяротна раненага жаўнера, родам парыжаніна. Гадзіны яго жыцьця былі палічаны, дык сястра старалася падрыхтаваць жаўнера да годнае сьмерці. Ранены ведаў свой стан, дык шчыра ўспрыняў стараньні сястры. І вось між іншым сястра пыталася раненага:

— Ці вы любіце Хрыста?

— А хто гэта такі? Я Яго ня ведаю, — адказаў з сумам.

У Парыжу, дзе ёсьць сотні розных хрысьціянскіх сьвятыняў, тысячы сьвятароў, дзе хрысьціянства ведамае ўжо 1700 гадоў і лягло ў аснову французскае культуры — і тут-жа нехта пражыў свой век, ня чуўшы нічога аб Хрысьце! Дык што гаварыць пасьля гэтага аб так званых глухіх закутках сьвету?! Ці можна дзівіцца, што там сёньня, 1957 гадоў пасьля нараджэньня Хрыста, можна стрэнуць людзей, якія нічога ня ведаюць аб Хрысьце?!

Вышэйапісаны выпадак, відаць, ня ёсьць адзіночным, бо некалькі гадоў таму ў Бэльгіі зьявілася цікавая кніжка пад загалоўкам: «Няведамы Хрыстос», — сам загаловак хіба-ж аб нечым гаворыць і сьведчыць!

На падобныя факты зьвяртаецца ўвагу не таму, каб магчы на некага паказваць пальцам, перабіраць чужыя костачкі, але на тое, каб кожны чытач заахвоціўся шчыра спытаць сябе: ці я ведаю, як сьлед Хрыста? Бяз сумніву кожны чытач рэлігійнага часапісу ведае імя Хрыста, але ці ведае Ягоную навуку? І самае галоўнае, ці выконвае яе? Падобныя пытаньні ўжо хоць-бы дзеля таго варта паставіць, што сам Хрыстос казаў: «Ня ўсякі, хто кажа Мне: Госпадзе, Госпадзе, увойдзе ў Нябеснае Валадарства, а той, што выконвае волю Айца Майго, каторы ёсьць у небе» (Мат. VII, 21).

Кожны чалавек мае з прыроды ненасытную цікавасьць да ўсяго, што дзеелася і дзеецца ў сьвеце. Мы — людзі дваццатага веку — маем аграмадную магчымасьць заспакойваць нашу цікавасьць. Кніжкі, газэты, часапісы і радыё штодзенна разносяць на ўвесь сьвет нязьлічаную колькасьць найрознараднейшых вестак, але варта зьвярнуць увагу на тое, што пераважае ў гэтых вестках, а перадусім: на якія весткі найбольш накідаецца цікавасьць пярэсечнага чалавека? Паважныя жыцьцёвыя пытаньні нажаль не ўвайходзяць ў круг яго зацікаўленьня, а толькі розныя дробныя гісторыі, няшчасныя выпадкі, імёны і гісторыі розных кінавых зорах, спартоўцаў, кар'еровічаў, злачынцаў, розныя плёткі і сэнсацыі з палітычнага жыцьця — усё гэта ўбірае ў сябе людзкая цікавасьць так прагавіта, што на важнейшыя пытаньні, на істотныя праблемы жыцьця не астаецца ні мейсца, ні часу. Адпаведна да зацікаўленьня публікі аграмадная большасьць газэтаў і радыё дабіраюць сабе матэрыял і стараюцца абмінаць Хрыста моўчанкаю, а вернікі мімаволі звыкаюцца да гэткага стану рэчаў.

Але жыцьцё йдзе сваёю каляінаю і перад кожным чалавекам, хоча ён гэтага, ці не, час-ад-часу ставіць паважныя жыцьцёвыя пытаньні, няраз ставіць чалавека ў цяжкія клопаты і няшчасьці — тады тая цікавасьць, якая насычана толькі пустою шушамяцьцю, не знайходзіць ані прычынаў жыцьцёвых цяжкасьцяў і неладоў, ані тымбольш іх выясьненьня. Тады пачынаюцца нараканьні на ўсіх і на ўсё, толькі не на сябе. Такая ўжо людзкая натура, што прычынаў усяго нядобрага звычайна кожны шукае толькі дзесь у іншых, дзесь звонку, тады калі найважнейшая прычына нашых няшчасьцяў найчасьцей ёсьць у кожным з нас.

У абліччы паважных жыцёвых пытаньняў неабходна мець наўвеце найбольш паважную навуку, навуку Божую, якую нам прынёс з неба Хрыстос, і ў яе сьвятле шукаць прычынаў нашага і гора, і радасьці.

Калі-як-калі, а ў часе большых сьвятаў ёсьць і час і нагода глянуць глыбей у сваё сумленьне. Абавязкам кожнага верніка ёсьць выкарыстаць гэтую нагоду, каб прыглянуцца да свае рэлігійнасьці, да таго: паколькі мы ёсьць хрысьціянамі

**Усіх чытачоў Рэдакцыя вітае з сьвятам Нараджэньня Хрыста і зычыць шчасьлівага Новага Году**

ў практычным жыцьці? Для прыкладу гляньма, як мы сустракаем, ці сустракалі сьвята Нараджэньня Хрыста?

Цяпер усюды ў Эўропе ўвайшло ў моду, што вернікі і няверуючыя рыхтуюцца нейкім чынам да гэтага вялікага сьвята. Нават у бязбожных савецкіх школах ладзяць так званыя «Новагоднія ялінкі», а ў большых гарадох Зах. Эўропы зусім непрактыкуючыя хрысьціяне ладзяць «Вялікія Калядныя балі» і «галі» — несамавітае гэта спатканьне Сьвята, калі ў балёвыя салі з напоўразьдзетымі танцоркамі, ў гукі джаз-аркестры, а поўначы праз напоўадчыненыя дзьверы даходзіць перазвон з цэркваў, і гукі джаз-аркестры спатыкаюцца з звонам званоў — зьмест спатканьня выказвае дзікі сьмех і выеньне саксафону. Але колькі ёсьць такіх, што ў часе гэтага Сьвята стараюцца годна спаткаць Хрыста? Нават паважная колькасьць тых, якія пахрысьціянску рыхтуюцца да Сьвятога Вечару, найбольш занятыя стараньнем, каб зрабіць прыемнасьць сабе і мала хто, падобна, як калісь бэтлеемскія пастушкі, стараецца зрабіць нешта добрае для Нованароджанага Збавіцеля. Шматлікія нават ня ведаюць, як можна сёньня стрэнуць Хрыста? Як у Яго імені зрабіць нешта добрае? Забываюцца, або і зусім ня ведаюць слоў Хрыста: «тое, што вы зрабілі аднаму з братоў Маіх меншых, Мне зрабілі» (Мат. XXV, 40).

Пэўна-ж супярэчнасьці між тым, да чаго вабіць дачасны сьвет і тым, чаго вымагае ад нас Хрыстос, вельмі вялікія. І калі нехта пойдзе за дачаснымі прынадамі сьвету, дык будзе старацца абмінаць Хрыста. І ня дзіва, бо пагоня за: пачасьцямі, славаю, багацьцем, магутнасьцю, раскашамі, змысловымі прыемнасьцямі і пад. — гэта ня шлях да бэтлеемскіх ясьляў, ня шлях да Хрыста. Дык прамоўчваньне аб Хрысьце ў некаторых асяродках ня ёсьць прыпаковым зьявішчам, ня ёсьць так-жа прыпадкам усё тое, што дзеецца навокал нас; і той неспакой, і тая няпэўнасьць, і нелады, якія цяжаць над сучасным сьветам.

Хто стараецца ўцячы ад сустрэчы з Хрыстом, ці-ж пачуе, ці ўспрыйме словы Хрыста: «Я ёсьць дарога, і праўда і жыцьцё». (Ів. XIV, 6). Хрыстос на тое і прыходзіў на зямлю, каб скіраваць на дарогу праўды і збаўленьня ўсіх людзей. «Прыйдзеце да Мяне ўсе працуючыя і абцяжараныя і Я супакою вас. Вазьмеце ярмо Маё на сябе і навучэцеся ад Мяне; бо Я ціхі і лагоднага сэрца, і знойдзеце супакой душам вашым» (Мат. XI, 28-29). Колькі ёсьць людзей, якія ўспрымаюць да сэрца гэты заклік Хрыста? Ангелы падчас нараджаньня Хрыста пяялі: «Слава на вышынях Богу і на зямлі мір людзям добрае волі» (Лук. 2, 13), але колькі людзей далучаецца да анельскага хору?

Такія думкі самі сабою напрошваюцца ў сучасных умовах з нагоды Калядаў, бо-ж цяпер усюды стала модным «сьвяткаваць» розныя ўгодкі і падчас іхняга «сьвяткаваньня» усе ўдзельнікі знаёмяцца са зьместам самых угодкаў ці юбілеяў. Дык тымбольш апраўдана і самазразумела, каб кожны з нагоды сьвята Нараджэньня Хрыста пазнаў дакладней і самога Хрыста і перадусім Ягоную навуку. Гэта будзе паважным крокам наперад у нашым духовым жыцьці і нашым зблізкэньні да Хрыста.

**а. Леў.**

# ІСУС У НАЗАРЭЦЕ

«Пойдзем у Назарэт і паводля таго, што азначае гэтае імя, пабачым кветку Галілеі» — так пісала калісьці Паўліна, Рымлянка, вучаніца сьв. Ероніма, да шляхотнае Марцэльлі, каб заахвоціць яе адведаць ласкавы і сьвяты галілейскі гарадок.

Жадаў-бы і я зьвярнуцца да сваіх братоў беларусаў з заклікам адведаць Назарэт, перанесьціся туды хоць думкаю.

Назарэт сваею ціхасьцю здаецца быць падобны да нашае беларускае вёскі. Калядны час пераносіць нас на бацькаўшчыну Хрыст і нашу родную бацькаўшчыну.

Дык пойдзем!..

Назарэт, сяньня Эн-Назіра, ёсьць спакойным мястэчкам, адным з найбольш маляўнічых у Палестыне. Знаходзіцца ён на тэрыторыі даўнога пакаленьня Забулёну ў пауднёвай Галілеі на адлегласьці 30 км. ад Тыбэрыядзкага возера і каля 120 км. ад Ерузаліму. Навокал ён акружаны нявысокімі горамі. Лагчына ў якой ён знаходзіцца, мае ўраджайную і добра абробленую глебу. На схонах гор зеленеюць вінаграднікі; залацяцца аранжыкі і мэлёгранаты. З вяршыні галоўнага ўзгорку можна аглядаць цудоўныя краявіды. На

ўсход ад Назарэту бачны Табор, на поўначы цягнуцца галілейскія ўзвышшы аж да вяршын Лібану і высокага Гэрмону. Між Лібанам і Кармэлем уздоўж сярэдняморскага ўзьбярэжжа захаваліся сьляды старадаўных фэнікійскіх гарадоў.

Здалёк Назарэт вабіць вока паломніка, але зблізку крыху расчароўвае яго. Вузкія, крутыя і крывыя вулічкі разыходзяцца ў розных кірунках бяз ніякага парадку, а да таго яны брудныя; а да ўсяго гэтага вельмі ўражае крыклівы кнтраст між высокаэстэтычным магомэтанскім мінарэтам і базылікай Дабравешчаньня.

Але гэтае ўражэньне хутка зьнікае, бо кожны разумее, што Назарэт гэта нешта большае чымся крывыя бруднаватыя вулічкі, або разгалдакаваныя арабы. Назарэт праз 30 гадоў быў прыпынкам Сына Божага на зямлі!

На паўночна-ўсходняй акраіне Назарэту пры Тыбэрыядзкай вуліцы ёсьць адна-адзіная фантана для ўсяго мястэка, аб якой дайшлі да нас успаміны з розных эпок.

Наша ўява пераносіцца да тае фантаны. Мы бачым там ціхую прыгожую жанчыну, як яна адною рукою чэрпае ваду з фантаны, а другою трымае свайго адзінага сынка Ісуса. Дбайлівая традыцыя да сяньня называе гэтае мейсца «фантанай Мадонны». Праваслаўныя грэкі пабудавалі там сьвятыню ў чэсьць Арханёла Гаўрыіла, бо паводля апокрыфічных вестак, тут Арханёл зьвярнуўся да Марыі з першым прывітаньнем.

Сяньня Назарэт налічвае каля 10 тысяч жыхароў. Перад стварэньнем дзяржавы Ізраэль тым было амаль роўна па адной трацінe: магомэтанаў, праваслаўных і каталікоў, апрача таго некалькі сотняў пратэстантаў, жыдоў і інш. Пасьля Бэтлеему Назарэт належыць да тых гарадоў Палестыны, дзе большасьць жыхарства — хрысьціяне. За часоў Хрыста там насельніцтва было ня больш, як 5-7 тысяч.

Дзеля свайго геаграфічнага палажэньня Назарэт, адзьдзелены ад вялікіх шляхоў і цэнтраў, вельмі добра надаваўся да скрыцьця ўцелаўлёнага Божага Слова ў пэрыяд Яго ўкрытага жыцьця.

У Старым Запавеце зусім не ўспамінаецца аб Назарэце, так-жа нічога аб ім ня кажа Язэп Флявій — ведамы стары жыдоўскі гісторык. Калісьці Назарэт ня меў добрае славы нават у сваіх суродзічаў, бо калі ап. Філіп прышоўшы да Натанаіла сказаў, што знашоў Мэсыю, з Назарэту, дык гэты зьдзіўлены кінуў пытаньне: «Ці-ж можа быць што добрае з Назарэту?» (Ів. 1, 46).

У томах талмуду так-жа няма ўспаміну аб Назарэце, за выняткам пагорджанага жыдамі назову ў адносінах да Хрыста: Ган-Назрі (Назаранін). Аднак гэтае, так пагорджванае жыдамі імя: Назаранін, якое паліла ім вочы з надпісу на Крыжы (Ів. XIX, 19), зрабіла слаўным гэты гарадок на ўвесь сьвет. Веліч і хвала Назарэту ў тым, што ён быў прыбранай бацькаўшчынай Ісуса Хрыста.

Гісторыя Назарэту пачынаецца ад Ісуса.

У 750 г. рымскае эры (4 гады перад пачаткам сучаснага гадалічэньня) памёр палестынскі крывавы цар Гэрад, за жыцьця ўжо едзены чарвякамі. Ісус знаходзіўся тады ў Егіпце і меў каля паўтара году. Там анёл зьявіўся зноў Язэпу з загадам вярнуцца ў зямлю Ізраэля. Язэп выконвае загад і вяртаецца ў Палестыну ды асядае ў Назарэце.

Па сьмерці Гэрада валадаром Галілеі і Пэрэі стаўся адзін з ягоных сыноў Гэрад-Антыпа, каторы ўладаў краінаю 40 гадоў, маючы тытул тэтрарха. Калі Ісус-Дзіцятка зьявіўся ў Назарэце, каб распачаць публічнае жыцьцё, Антыпа аставаўся яшчэ на сваім становішчы. Толькі ў 40 г. імпэратар Калігула скінуў яго з пасаду тэтрарха і паслаў на выгнаньне. Калі адбываўся судовы працэс Хрыста, Антыпа якраз быў у Ерузаліме. З гэтае прысутнасьці скарыстаў Пілат і хацеў усю адказнасьць несправядлівага суду супраць Хрыста перакінуць на Гэрада-Антыпу, бо з пункту цывільнага права Ісус быў яго падуладным (Гл. Лук. XXIII, 5-12).

У кожным выпадку сьв. сям'я выбрала сабе Назарэт за мейсца жыхарства між іншым так-жа таму, што пасьля сьмерці Гэрада ў Ерузаліме валадаром стаўся Архэлай, годны наступнік свайго бацькі: амбітны, гвалтоўны, крывавы. Гэрад- Антыпа — валадар Галілеі быў крыху лепшы за яго і за свайго бацьку. За доўгія гады свайго кіраваньня ў Галілеі ён забясьпечыў супакой і нават некаторы дабрабыт краіны. Будаваў палацы і нават гарады, між якіх найбольш ведамы ёсьць Тыбэрыяда, збудаваная на беразе возера Гэнісарэт і названая іменем рымскага імпэратара Тыбэрыя (13-37).

Тымчасам у суседняй Юдэі адбыліся падзеі, якія мелі паважны ўплыў на гісторыю жыдоўскага народу. Імпэратар Аўгуст скінуў тэтрарха Архелая ў 10-м годзе ягонага кіраваньня і выгнаў у ссылку. Юдэя канчаткова страціла сваю аўтаномію і сталася адною з рымскіх правінцыяў, якою кіраваў пракуратар. У гэтым самым часе (6-ы год па Хр.) дзеля спраўнейшага зьбіраньня падаткаў губэрнатар Сірыі Квірыній зробіў перапіс насельніцтва. Мэты перапісу жыды добра ўцямілі і паднялі бунт, які рымляне крывава здушылі.

Пасьля гэтага рымляне ня лічыліся нават з найбольш сьвятымі ўстановамі Ізраіля, пачалі нават вызначаць найвышэйшых архірэяў. І так пракуратар Валеры Грато (15-26 па Хр.) скінуўшы архірэя Анну, назначаў аж чатырох новых аднаго за другім; апошнім з іх быў Язэп Каіафа (26-36 па Хр.), каторы займаў архірэйскае становішча праз увесь час урадаваньня пракуратара Пілата (26-36 па Хр.).

У гэтым часе (6 г. па Хр.) ў Рыме, тагачас-

ным культурным цэнтры сьвету, была адчынена на Капітолю сьвятыня Юпітэра ў знак супакою. Хутка пасьля гэтага, 14 жніўня 14 г. па Хр. адыходзіў з гэтага сьвету адзін з найвялікшых рымскіх уладароў — Аўгуст, а ягоны пасад заняў імпэратар Тыбэрый, аб якім успамінаецца ў Эвангельлі.

Усе гэтыя падзеі ў гісторыі чалавецтва, праходзілі не закранаючы ціхага і спакойнага Назарэту, у якім рос, разьвіваўся і дасьпяваў да сваэ працы Ісус Хрыстос — Прарок з Назарэту.

Навонках Ён быў зусім падобны да сваіх равесьнікаў; перш дзяцей, потым хлапцоў, наступна юнакоў. Ён, як і яны, гуляў на каленях маці, пасьля быў памоцнікам ў хатняй працы, а потым сьв. Язэп узяў Яго ў сваю сталярню. Падросшы, Ён пачаў адмаўляць малітвы, чытаць, пісаць і хадзіць у сынагогу. Праца ў полі і вінаградніку такжа не абмінула Ісуса. Ня былі чужымі для Яго пытаньні жыдоўскага права і праблемы, якія парушалі фарысэі і садукеі, праблемы і здарэньні грамадзкага і дзяржаўнага характару Палестыны і суседніх краінаў. — Так проста выглядала-б Ягонае штодзеннае жыцьцё ў Назарэце да 30 году.

Мова, якою карыстаўся Ісус, была арамайская з асабліваю галілейскаю вымовай. Галілея аднак мела зносіны з гэльленскім сьветам, дык яе жыхаром ня была чужою і грэцкая мова. Магчыма, што Хрыстос так-жа ведаў яе, а яшчэ больш праўдападобна, што ведаў добра гэбрайскую мову, як мову сьв. Пісаньня.

Але ўсё тое, што вышэй было сказана аб Ісусе, не здавальняе нашае цікавасьці. Ці-ж на працягу 30-і гадоў жыцьця Перабудоўцы сьвету нічога больш ня здарылася акрамя таго, аб чым мы знаемо з агульнае гісторыі і аб чым мы можам дадумацца?

У Эвангельлі сьв. Лукі ёсьць запісана адно здарэньне (Лук. 2, 42-51) з юных гадоў жыцьця Хрыста, але толькі адно.

Кожны год ў часе Пасхі, падобна як кожны пабожны ізраэліт, бацькі Ісуса хадзілі ў Ерузалім. Паводля праўных вымогаў Марыя, як жанчына, ня была забавязаная да гэтага падарожжа, але шматлікія жанчыны далучаліся да сваіх мужоў у гэтым паломніцтве і бралі з сабою дзяцей, хоць гэтыя апошнія да 12 году не падлягалі закону паломніцтва. Праўда, пагляды рабінаў адносна веку хлапцоў і абавязку паломніцтва мелі паважныя разыходжаньні. У практыцы аднак толькі 12 гдовы хлапец ставаўся «сынам закону», але незалежна ад гэтае граніцы веку і думак вучоных рабінаў, дзяцей на Пасху ў Ерузаліме заўсёды зьбіралася поўна. Бяз сумніву, што і Хрыстос няраз мусіў быць у Ерузаліме перад 12 г., але аб гэтым у Эвангельлях не гаворыцца, бо да гэтага часу Ён паломнічаў толькі, як спадарожнік, а ў 12 годзе Ён ужо рабіў прошчу ў сваім імені.

Паломніцтвы ў Ерузалім адбываліся з далёкіх мяйсцовасьцяў у форме караванаў, разьбітых на маленькія групы, якія мелі ўсталеныя сваё мейсцы начоўкаў. З Назарэту ў Ерузалім было тры або і чатыры затрымкі, бо дарога мела добрых 120 км. У Ерузалім прыходзілі днём, або двумя раней перад 14 нізан і аставаліся там да 15 нізан уключна, або нават праз увесь пасхальны час, які трываў 8 дзён.

У здарэньні апісаным сьв. Лукою, Язэп і Марыя вярталіся з Ерузаліму ня разам, але ў пасобных групах; Язэп з мужчынамі, а Марыя з жанчынамі, дык і не заўважылі, што пры іх няма Ісуса, бо юнакі маглі быць або ў мужчынскай, або ў жаночай групе. Калі аднак вечарам групы рассыпаліся і сходзіліся сем'і разам, Язэп і Марыя заўважылі, што з імі няма Ісуса.

Бедныя бацькі распачалі пошукі.

Першы і другі дзень пошукаў мінулі бяз выніку. Толькі на трэці дзень «знашлі Яго ў сьвятыні, сядзячага між вучоных, слухаючага і пытаючага ў іх; усе, што слухалі Яго, вельмі дзівіліся з розуму і адказаў Яго. І ўгледзеўшы Яго (бацькі) зьдзівіліся; і сказала Яму Маці Яго: Сыну! што ты зрабіў нам? Вось Твой бацька і я з вялікаю тугою шукалі Цябе. І сказаў ім: нашто было вам шукаць Мяне? Ці-ж ня ведалі, што Мне трэба быць у тым, што належыць Майму Айцу? І яны не зразумелі слоў, якія сказаў ім» (Лук. 2, 46-50).

Пасьля гэтага здарэньня Ісус разам з прыбраным бацькам і маткай вярнуўся ў Назарэт. «І быў паслухмяны ім. І Маці Яго сьцерагла ўсе тыя словы ў сэрцы сваім. А Ісус узрастаў у мудрасьці і гадох ды ў ласцы ў Бога і людзей» (Лук. 2, 51-52).

Шмат можна было-б напісаць аб гэтых каротkіх словах эвангэліста, шмат можна было-б і трэба было-б аб іх разважаць!

«І быў паслухмяны ім».

Хто? Каму? У чым? Той, Каторы задзівіў старых вучоных кнігаедаў у сьвятыні, Каторы выяўляе мэсіянскую сьведамасьць, адклікаючыся ад аўтарытэту прыбраных бацькоў да павагі свайго нябеснага Айца — Ён ёсьць паслухмяны сталяру і простай нявучонай жанчыне. І бяз сумніву Ён быў паслухмяны ўва ўсім і гэтая паслухмянасьць так прыкладная, так дасканалая, што ніводзін манах, ніводзін сьвяты ня можа зраўняцца з Ім. Зразумелымі тады становяцца словы сьв. Лукі: «Узрастаў у ласцы ў Бога і людзей». Кожны добры ўчынак раней, ці пазьней людзі належна ацэняць.

Можна паставіць пытаньне: што значыць ўзрастаў у ласцы ў Бога? Ісус Хрыстос ад мамэнту свайго пачацьця быў Богам і чалавекам, таму быў

дасканалы, сьвяты, поўны ласкі. Калі арханёл вітаў Марыю славамі: «Вітай, Марыя, поўная ласкі», — дык тымбольш гэтыя словы адносяцца да Таго, дзеля Каторага Марыя атрымала гэтую поўню ласкі. І як-жа тады Ісус мог узрастаць у ласцы ў Бога, калі заўсёды быў поўны ласкі?

Зразумела, ня ўсё нам сьцяміць, што ў сьв. Пісаньні гаворыцца аб Богу, аб Збавіцелю, ці аб ласцы. Для рацыяналістаў, агностыкаў і атэістаў падобныя цяжкасьці ёсьць тым каменем, на які яны спатыкаюцца і ў засьляпленьні разьбіваюць сабе галаву.

Сказ эвангэліста аб росьце і разьвіцьці Ісуса мае на ўвеце людзкую прыроду Ісуса, бо-ж Ісус быў і Богам і чалавекам; гэта выясьнена ўжо даўно на саборах, дзе былі асуджаны розныя фальшывыя хрысталягічныя навучаньні.

Акурат сёлета мінула 1500 г. ад сабору адбытага ў Халкідоне 451 г., на каторым была асуджана навука Нестара, Діодора і Тэодора з Мапсвэстыі. Яны вучылі, што ў Хрыста было дзьве асобы: Боская і людзкая, а дзеля гэтага Марыя нібыта была толькі хрыстародзіцай. Крыху пазьней зьявілася іншае фальшывае навучаньне пад іменем монофізітызму, якое цьвердзіла наадварот, што ў Хрыста была толькі адна Божая прырода, а людзкая прырода ўключылася ў Боскую прыроду. — Абедзьве гэтыя навукі асуджана, бо ў Хрыста былі злучаныя, але ня зьмешаныя, дзьве поўнасьцю дасканалыя прыроды: і Боская і людзкая.

Зразумела, калі ў Хрыста былі дзьве прыроды: Боская і людзкая, дык былі так-жа іхныя ўласьцівасьці. Хрыстос будучы дасканалым чалавекам, рос, еў, піў, спаў, адчуваў змучэньне і боль так, як і ўсе людзі, але адначасна Хрыстос, як Бог, меў поўнасьць сьвятасьці, веды, усемагутнасьці.

Людзкому абмежаванаму розуму нельга ўцяміць таёмнага спалучэньня дзьвёх прыродаў у Хрыста, але там, дзеканчаюцца межы людзкога розуму, прышло з помаччу Божае аб'яўленьне, як непамыльны праваднік у надпрыродным сьвеце.

Вяртаючыся ў Назарэт наша людзкая цікавасьць усё-ж крыху занепакоеная; праз 30 гадоў Хрыстос там жыў і акрамя аднаго дробнага здарэньня няма аб ім з таго часу больш ніякіх вестак?!

Чаму не пакінуў Назарэт і не паехаў у Атэны, ў Рым, ці ў Індыю? Там былі тагачасныя цэнтры культуры і там нарастала смага пазнаньня праўды. Дык чаму Хрыстос не занёс туды сам свае збаўчае навукі?

Адказам на гэта могуць быць словы Божыя, сказаныя вуснамі прарока Ісаіі: «Мае думкі — ня думкі вашы, ані вашы шляхі — Мае шляхі» (Іс. 55, 8).

Калі маем знайці адказ на тайну жыцьця Хрыста ў Назарэце, дык ён ня будзе іншы ад таго, які даў апостал Паўло. Ён у пасланьні да жыдоў кажа: «павінен быў стацца ўва ўсім падобным да братоў, каб быць міласэрным» (Жыд. 2, 17). У плянах Божых было, каб Сын Божы, прымаючы людзкую прыроду, стаўся ўва ўсім нам падобны. Таму Хрыстос, будучы Богам, «Сябе Самога панізіў, прымаючы форму слугі» (Філ. 2, 7). Хрыстос быў паслушны, пакорны і ўбогі, а гэта ўсё дзеля прыкладу людзям: «дзеля вас стаўся бедным, тады калі быў багатым» (ІІ. Кар. 8, 7).

Гэтыя словы апостала ёсьць найлепшым выясьненьнем сказу сьв. Лукі: «І быў паслухмяны ім».

Жыцьце сьв. сям'і ў Назарэце ёсьць прыкладам сямейнага і манашага жыцьця. Ціхасьць, скромнасьць, працавітасьць, згода, сямейная радасьць — вось праменьні, якія прабіваюцца з Назарэту аж да нас праз адлегласьць прастору і цемру вякоў.

Наша змучанае эміграцкае сэрца можа належна супачыць у Назарэце, а Назарэт кожны з нас можа мець пры Божым багаславенстве там, дзе ёсьць бацькі сьведамыя божых прыказаньняў і захоўваючыя хрысьціянскую абычайнасьць і ўсюды там, дзе ўзаемаадносіны між людзьмі маюць такі характар, каб з імі заўсёды і неразлучна быў Хрыстос.

**а. Ч. Сіповіч.**

# Пабожныя беларускія звычаі

Пры розных нагодах на старонках беларускае прэсы можна стрэнуць паасобныя артыкулы аб сьвяточных звычаях на Беларусі, але рэдка калі ўспамінаецца аб рэлігійных беларускіх звычаях у штодзенным жыцьці, а якраз аб іх варта часьцей успамінаць, каб яны былі ня толькі ўспамінамі, але жывою традыцыяю, бо якраз цяпер так на бацькаўшчыне, як і на эміграцыі беларускі народ перажывае вельмі крытычны час ламаньня самых найглыбейшых асноваў самабытнасьці.

### Хата.

Шэрая дзеравянная хата беларускага селяніна і мешчаніна, найчасьцей пакрытая саламяннаю страхою, як-бы яна ўбогая ня была, заўсёды была для беларуса маленькаю сьвятыняю. На покуці знайходзіўся рад сьвятых абразоў, завешаных прыгожымі вышыванымі набажнікамі. За абразамі заўсёды знайходзілася грамнічная сьвечка, якая запальвалася ў часе вялікіх навальніцаў і давалася ў рукі ўміраючаму. Сьвянцоная вярба,

сьвянцоная вада і сьвянцоная соль так-жа мусілі быць у кожнай хаце.

Штодзенна рана і вечарам кожны з сямейнікаў перад абразамі гаварыў свае пацеры; у гэтым-жа мейсцы зьвярталіся да Бога ў хвілінах радасьці з падзякаю, а ў хвілінах гора з просьбаю аб помачы. Калі ў гутарках даводзілася сказаць нейкае нядобрае слова, дык звычайна перад гэтым дадавалася: «шануючы гэтыя сьвятыя абразы і хату». Сядзець у хаце ў шапцы, або сьвістаць, рахавалася таксама строга забаронена, як і ў сьвятыні. Звычйна перш, чым рабіць улазіны ў новую хату, яна пасьвячалася; калі з нейкіх прычынаў нельга было пасьвяціць у сваім часе, дык гэта рабілася пры першай нагодзе. Паводля старога беларускага звычаю, ўвайходзячы ў хату, віталіся славамі: «Пахвалёны ў хату!», або «Слава Хрысту!»

### Гасьціннасьць.

У найстарэйшых гістарычных памятках кажацца, што ўсе беларускія пляменьні мелі звычай, каб у іх у хаце на стале заўсёды ляжаў хлеб і была соль, каб было чым стрэнуць кожнага неспадзяванага госьця. Пры гэтым варта зацеміць, што такое прыйманьне госьцяў мела глыбокую рэлігійную аснову, як аб гэтым сьведчыць прыказка: «Госьць на двор і Бог на двор». Дзеля гэтага і прымалі госьця не як папала, а найлепш, як толькі маглі: «Чым хата багата, тым і рада». Садзілі яго на самае пачэснае мейсца: «Госцева мейсца на покуці». Таму што вясною беларускі селянін ня меў магчымасьці добра частаваць, дык у адносінах да госьцяў меў адно жаданьне: «Тады госьць бывай у мяне, калі поўна ў гумне». А колькі створана казак і лягэндаў у беларускім народзе аб тым, як у пастаці старэнькага падарожнага госьця хадзіў па зямлі сам Бог!

### Падарожжа.

Выбіраючыся ў дарогу, беларус заўсёды, перш чым пераступіць парог хаты, пабожна жагнаўся ў кірунку абразоў. Калі бацькі выпраўлялі дзяцей у дарогу, дык багаславілі іх сьвятымі абразамі. Прыгожы прыклад такога багаславенства падае Ул. Галубок у драме «Апошняе спатканьне». А на вясельлі, перш чым ехаць да шлюбу, пасьля таго, як маладых пабагасловяць іхныя бацькі, сват яшчэ тройчы звяртаўся да ўсіх прысутных, каб багаславілі маладых. Словы гэтае просьбы акрамя глыбокага рэлігійнага зьместу, маюць незраўнаную мастацкую літаратурную форму.

Крыжы на скрыжаваньнях дарог калісь былі неадменнаю азнакаю ўсіх беларускіх дарогаў. Навошта іх там ставіў народ? Бо на скрыжаваньні дарог заўсёды ёсьць найбольшая небясьпека заблудзіць, а крыж ставаўся нагодаю зьвярнуцца да Бога з просьбаю аб помачы. Да таго ў шматлікіх беларускіх казках і лягэндах гаворыцца, што на скрыжаваньні дарог знайходзіцца нячысьцік, а ведама так-жа з агульнага вераваньня, што нячысьцікі найгорш баяцца крыжа, дык і ставіліся гэтыя сьвятыя знакі для ахароны падарожных ад усякага ліхога. А беларускія жанчыны ніколі не забываліся абвязаць фігуру Хрыста на ўкрыжаваньні чыстым хвартушком.

### Прошчы.

Калі толькі пазваляллі палявыя работы, у вёсках зьбіраліся меншыя, або большыя гурткі на прошчы да сваіх услаўленых сьвятыняў, як: Жыровічы, Вострая брама і Кальварыя ў Вільні, Кодно, Супрасьль і шмат інш. Агулам на Беларусі ведама каля 40 цудатворных абразоў Маці Божае, да якіх сходзяцца малельнікі з далёкіх куткоў краю. Ідуць на прошчы беларусы не для парады, не з турыстычнае цікавасьці, як гэта часта можна бачыць у Зах. Эўропе, але з глыбокіх рэлігійных перакананьняў.

### Працэсіі.

Акрамя таго, што пасьля Вадохрышча сьвятар абходзіць кожную вёску у сваёй парахвіі з сьвянцонаю вадою, яшчэ раз на год ладзіўся працэсійны абход ўсяе вёскі і прылягаючых палёў. Найчасьцей такія абходы ладзяцца каля Сёмухі. Тады хаты прыбіраюць зеленьню, дворышчы і вуліцы ўсьцілаюцца пахучым аерам. Прыгожа тады глядзець, як кожны гаспадар выносіць у вароты чыста засланы стол, на ім ставіць запаленыя сьвечкі і вакол яго кленчыць уся сям'я, атрымоўвае багаславенства сьвятара і потым далучаецца да агульнае працэсіі.

### Сьвяткаваньне.

Сьвяты для беларусаў ня былі толькі днямі адпачынку, але мелі характар быццам урачыстых бліжэйшых сустрэчаў з Богам. Таму некаторыя большыя сьвяты, такія, як: Каляды і Вялікдзень папераджаліся вельмі дбайлівай падрыхтоўкай. Перад гэтымі сьвятамі рыхтавалі ня толькі смачную і сытную ежу, але чысьцілі дакладна ўсю хату, вопратку і перадусім ачышчалі сваю душу сьв. Споведзьдзю і сьв. Прычасьцем.

Народны беларускі календар, дык амаль выключна асноўваўся на сьвятах. Даты народжаньня, шлюбу, сьмерці заўсёды лічыліся ад найбліжэйшага сьвята. Напр., «Сьцяпан памёр тры дні перад Сёмухаю».

Асабліва характэрна для рэлігійнасьці беларусаў, што кожнае большае сьвята, акрамя царкоў-

ных абрадаў, мела яшчэ шмат хатніх звычаяў. Каляды суправаджаліся сьвятою вячэраю-куцёю, сьпевам калядоўшчыкаў, бэтлейкаю, хоаджаньнем з казою і інш.; Васільле. або Новы Год — сытаю куцёю і сьпевам шчадроўшчыкаў ды варажбою; Вадохрышча — куцёю, абходжаньнем будынкаў і значаньнем крыжыкамі, або ініцыялямі трох каралёў; Грамніцы — рознымі абрадамі з грамнічнымі сьвечкамі; Дабравешчаньне — песьнямі вясьнянкамі; Вялікі пост — найважнейшаю справаю было годна выспаведацца, перад самаю споведзьдзю ўсе хатнія і суседзі прасілі ўзаемна даваньня ўсіх крыўдаў і калі пасьля гэтага вярталіся з сьвятыні, дык у кожнага на абліччы можна было бачыць, што з іхняе душы спаў вялікі цяжар; Вялікдзень — гэта час найбольш радасных абрадаў, час валачобнікаў і гульняў; Юр'е — час юр'еўскіх песень і выгану кароваў на расу з сьвянцонаю вярбою; Сёмуха — гуляньне моладзі, пяяньне сёмушных песень; нараджэньне Івана Хрысьціцеля — багатыя яшчэ дахрысьціянскія купальныя гульні і песьні; Пятра і Паўла — хоць гэта час касавіцы, аднак знайходзіцца час, каб адсьвяткаваць традыцыйныя пятроўкі; Спас — асьвячаньне садавіны і збожжа; Багач — сьвячаньне зёлак; Прачыстая — розныя дробныя асьвячаньні; ап. Андрэя — варажба маладых дзяўчат т. зв. андрэйкі.

### Захаваньне пастоў.

Сёньня ў ненармальных умовах жыцьця мала дзе захоўваецца пост, так, як гэтага вымагаюць царкоўныя прыпісы, але калісьці на Беларусі пост захоўваўся паўсюдна і быў постам для ўсіх і аднача сна быў добрым лекам і для душы і для цела.

### Земляробскія звычаі.

Селянін больш чым хто іншы залежыць ад прыродных стыхіяў, супраць якіх чалавек быў і астаецца далей бясьсільны, дык самазразумела, што ў гэткім палажэньні ён больш чым іншыя зьвяртаецца да Валадара сусьвету з мольбамі. Нядзіва так-жа, што кожная важнейшая падзея ў земляробстве суправаджалася нейкімі рэлігійнымі абрадамі — і засеўкі, і зажынкі, і дажынкі, і замалоткі, і дамалоткі — рабіліся з заклікам Божага багаславенства. Асабліва дажынкі мелі прыгожыя звычі, поўныя глыбокае сымбалічнасьці і яшчэ глыбейшую веру ў Божую ўсемагутнасьць і міласэрнасьць.

Прывітаньні, агульна ўжываныя ў сялянскім працоўным жыцьці, прасякнуты так-жа глыбокаю рэлігійнаю сьведамасьцю. Сейбіта вітаюць: «Радзі, Божа!»; гаспадыню, што месіць хлеб — «Прыспарай, Божа!», а да кожнага іншага працуючага: «Памагай, Божа!»

### Бытавыя звычаі.

Амаль кожная важнейшая падзея ў жыцьці беларуса суправаджалася нейкімі звычаямі з больш, або менш глыбокім рэлігійным зьместам. Хрэсьбіны, вяселье, хаўтуры — мелі на толькі багатыя і рознаякія абрады, што аб кожным з іх ёсьць сабраныя шматтомныя этнографічныя зборкі. Нават і ў скароце іх нельга пераказаць у рамках аднаго артыкулу, але варта зьвярнуць увагу на хаўтуры, бо беларусы раз выканаўшы хаўтурныя абрады, не ўважалі, што гэтым ужо выканалі ўсе свае абавязкі адносна пакойнікаў. Аб іх маліліся часта самі і часта шчодра дарылі старцаў, каб яны памаліліся за душы памёршых. Акрамя таго год у год ладзіліся асобныя сьвяты ў чэсьць памёршых: Радаўніца і Дзяды.

### Значэньне беларускіх рэлігійных звычаў.

Чытаючы гэтае сухое і няпоўнае пералічэньне пабожных беларускіх абрадаў і звычаяў нават і без дакладнейшага іхняга апісаньня, можна ясна ўбачыць багацьце духовага жыцьця беларуса, бо «з поўнага сэрца гаворáць вусны». Ужо самая колькасьць гэтых звычаяў сьведчыць аб вялікім духовым багацьці, а калі яшчэ ўсьведаміць іхнюю арыгінальнасьць, дык тым яснейшым стане для кожнага абраз духовнага жыцьця беларускага народу. Усе спробы чужынцоў вынарадавіць беларуса разьбіваліся аб гэтыя звычаі, як аб непахісную скалу. Дзеля гэтага сучасныя спробы варожых сілаў, зьнішчыць старыя беларускія рэлігійныя традыцыі, ёсьць найгоршаю атакаю на душу беларуса, а з другога боку абыякавасьць да гэтых-жа звычаяў у некаторых кругох эміграцыі ёсьць нясьведамым супрацоўніцтвам з варожымі разбуральнымі сіламі.

Даўней хоць беларускаму селяніну жылося цяжка, хоць часам на перадноўку не ставала нават пушнага хлеба (з мякінаю), аднак дзякуючы глыбокаму рэлігійнаму жыцьцю, спалучанаму з роднымі звычаямі, беларус заўсёды быў бадзёры. Праўда, гора і бяда няраз лажыліся вялікім цяжарам на яго душу, але ён умеў падзяліць гэтае гора з сваім Стварыцелем і з сваімі сьвятымі апякунамі; нёс сваё гора ў сьвятыні і клаў яго разам з паклонамі перад цудатворнымі абразамі, выліваў яго ў шчырай малітве — і лягчэй станавілася на душы. Яго духовае жыцьцё было багатае і моцнае. Шэрыя будні ў сапраўднасьці трацілі шэрасьць, бо часта перапляталіся прыгожымі звычаямі. Сучаснае пакаленьне можа і мусіць шмат чаго навучыцца ад сваіх продкаў.

**А. Самавец.**

# Найстарэйшыя хрысьціянскія сьвятыні на Беларусі ў X-XII ст.

### Агульныя заўвагі.

Дасьледнікі старое беларускае культуры маюць паважныя цяжкасьці ў сваёй працы, бо перашкодаў у гэтай працы ёсьць вельмі шмат і з розных бакоў, а патрэбнага рачовага матэрыялу вышукаць даволі цяжка, не таму, што яго ня было, але перадусім таму, што ён у вялікай колькасьці ўмысна зьнішчаны варожымі дзейнікамі. Да таго, незалежна ад гэтых дзейнікаў, дзякуючы вялікаму лясному багацьцю ад найдаўнейшых часоў і да нашых дзён рамясло і будаўніцтва на Беларусі пераважна карысталася дзеравам. Калісь старыя беларускія гарады дык «рубілі» выключна з дзерава і абносілі іх дзеравяннаю агарождаю, адкуль і паўстаў сам назоў — горад. Частыя войны і яшчэ часьцейшыя пажары няраз руйнавалі іх да тла. А калі чаго ні пажар, ні вайна не чапіла, дык час спарахніў.

Толькі з прыходам хрысьціянства зьяўляецца на Беларусі мураванае будаўніцтва, калі не рахаваць такім некаторых прымітыўных хатаў-ляпянкаў. Нажаль да гэтага часу замала дасьледжана памяткі мураванага будаўніцтва нашых продкаў. Горкую праўду казаў Я. Купала, што «прадзедаў слава лазой зарастае, памяць мінуўшчыны дрэмле ў зямлі». Праўда, апошнім часам з бацькаўшчыны даходзяць весткі, што там быццам вядуцца ў некаторых ваколіцах дасьледы стараветных беларускіх будаўнічых памяткаў, але нажаль яны адбываюцца пад націскам тае хварабліваe маніякальнае псыхозы, якая ад некаторага часу запанавала ў Маскве. А ў эміграцыйных умовах немагчыма выцерабіць тую «лазу», якою зарастаюць помнікі нашае старое культуры. Затое тут можна і трэба хоць крыху аднавіць прынамся тыя весткі, якія да гэтага часу трапілі ў друк. Пэўна-ж і тут не абыходзіцца бяз цяжкасьцяў, бо да названае тэмы беларускае літаратуры ёсьць мала (1), ды-й з гэтых лічаных працаў некаторых зусім нельга знайсьці. Лягчэй адшукаць іншамоўную літаратуру (2), але такжа толькі часткова. Аднак не зважаючы на гэтыя цяжкасьці, варта парушыць названую тэму, бо яна можа быць добрым адказам на розныя пасяганьні няпрошаных «старэйшых братоў» і адначасна паказчыкам аднаго з багатых укладаў, якое прынесла хрысьціянства ў беларускую культуру.

### Полацкія сьвятыні.

З дагэтулешніх досьледаў аднагодна вынікае, што найстарэйшаю хрысьціянскаю сьвятыняю на Беларусі, аб якой да нас дайшлі весткі, была царква **Прэсьвятое Багародзіцы ў Полацку.** Ужо ў 1007 г. яе называюць старою. Але відавочна яна была дзеравяннаю, дзеля гэтага і сьлед аб ёй засёрся.

Дзесь каля Полацку была так-жа старая, калі не старэйшая за папярэднюю, царква **сьв. Івана.** Аб ёй успамінае скандынаўская «Крысна-зага», гаворачы, што Торнвальд, вяртаючыся з паломніцтва ў Ерузалім, памёр каля Полацку і быў пахаваны ў царкве сьв. Івана гэта ўсяго, што аб ёй ведама.

---

1) Брунаў Н. І. — Беларуская архітэктура. Зборнік артыкулаў. Менск 1928.
   Васілевіч І. — Каложская царква ў Горадні. «Беларусь» Нр. 7-8, 1945 г.
   Палеес А. — Беларускія дойліды XII-XV в. в. «Беларусь» Нр. 3, 1946 г.
   Сыраб Б. — Калажанская царква ў Горадні. «Раніца» Нр. 18/19-20 (130/131-132) 1943.
   Хазераў І. — Аб царкве сьв. Спаса ў Полацку. Гістарычна Археолёгічны Зборнік Інстытуту Беларускае Культуры. Менск 1927 г.
   Хазераў І. — Сабор сьв. Сафіі ў Полацку. Запіскі Адзьзелу Гуманітарных навук Інст. Беларускае Культуры. Менск 1928 г.
   Тарасенка В. Р. — Раскопкі на мінскім замчышчы. «Беларусь» Нр. 3 (79). 1951 г.
   Шчакаціхін М. — Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва, Менск 1928.

2) Батюшковъ Н. — Русскія древности въ западныхъ губерніяхъ Имперіи. I-VII. Петербургъ 1868-1886.
   Воронин Н. Н. — Раскопки в Гродно. Кратк. Сообщ. ИИМК АН СССР вып. XXVII и вып. XXXVIII.
   Воронин Н. Н. и Крагер М. К. — История культуры древней Руси. т. II. Москва 1951.
   Орловскій Е. — Гродненская старина. Гродно 1910.
   Павлиновъ А. — Старыя церкви Витебска и Полоцка.. Работы IX археогр. конгр. въ Вильнѣ I. Москва 1895.
   Писаревъ С. — Проводникъ по Смоленску.
   Сапуновъ А. — Рѣка Зап. Двина. Витебскъ 1893.
   Сапуновъ А. — Полоцкій Софійскій Соборъ. Витебскъ 1888.
   Сапуновъ А. — Полоцкій Спасо-Евфросининскій дѣвичій монастырь. Витебскъ 1888.
   Сементковскій А. — Бѣлорусскія древности. Петербургъ 1890.
   Тарасенко В. Р. — Раскопки Минского Замчища. Кратк. Сообщ. ИИМК АН СССР вып. XXXV.
   Хозеров И. М. — К исследованию конструкции Спасского храма в Полоцке. Смоленск 1928.
   Хозеров И. М. — Археологические изучения памятников зодчества древнего Смоленска. Кратк. Сообщ. ИИМК АН СССР вып. XI.
   Шероцкій К. — Соборъ св. Софіи въ Полоцкѣ. Петербургъ 1916.
   Alpatov M. und Brunov N. — Geschichte der altrussischen Kunst. Augsburg 1933.
   Durczewski Z. — Stary zamek w Grodnie w swietle wykopalisk, dokonanych w latach 1937-1938. Grodno 1939.
   Jodkowski J. — Grodno wczesnosredniowieczne w swietle prac wykopaliskowych (1932-1933). Warszawa 1934.

Найстарэйшым і вельмі важным помнікам мураванага будаўніцтва на Беларусі ёсьць катэдральная царква **сьв. Сафіі** ў Полацку. Яна была збудавана між 1044-1065 г., бо ўжо ў 1066 г. полацкі князь Усяслаў Чарадзей, заняўшы Ноўгарад, перавозіць адтуль у полацкую сьв. Сафію розныя царкоўныя каштоўнасьці.

Аб першапачаткавым выглядзе гэтае сьвятыні магчыма толькі дагадвацца, бо яе на працягу вякоў некалькі разоў асноўна руйнавалі і перараблялі. Нязьменным астаўся толькі фундамант, але і то ня цэлы, ды частка сьцяны.

Самая ідэя будаваньня катэдры сьв. Сафіі мае пачатак аж у Візантыі, дзе Сафійская катэдра (к. 532 г.) лічылася вяршком будаўнічага мастацтва і сымбалем дзяржаўнага бляску. Дзеля гэтага, каб паказаць сваю магутнасьць і багацьце, украінскі князь Яраслаў Уладзімеравіч заснаваў у 1037 г. Сафійскую катэдру ў Кіяве і з гэткаю-ж мэтаю Уладзімер Яраслававіч будуе падобную катэдру ў Ноўгарадзе ў гадох 1045-50, а Усяслаў Чарадзей, няўтомны змагар за разьвіцьцё і веліч свае бацькаўшчыны, каб паказаць, што Беларусь нічым не слабейшая і не бяднейшая ад суседніх дзяржаваў, бяз доўгіх меркаваньняў будуе ў Полацку такую-ж сьв. Сафію. Зразумела, што падобная мэта абумоўлівала і падабенства ў самым будынку, да таго-ж і дойліды праўдападобна былі з тае самае візантыйскае школы. Аднак у ёй ёсьць так-жа і паважныя розьніцы.

Сьв. Сафія полацкая — гэта аграмадны пяцінаўны будынак з трымя кантаватыві апсыдамі ў аўтарнай часьці; апсыды ў прытворнай часьці не захаваліся. Над бакавымі навамі былі хоры, а на версе было сем купалаў. Унутры катэдра была ўпрыгожана фрэскамі, рэшткі якіх асталіся яшчэ ў падвале.

Але што для нас вельмі важна, дык гэта архітэктурныя своеасаблівасьці полацкае сьв. Сафіі. Дакладна і з фаховаю ведаю гаворыць аб іх Брунаў Н. у некалькі артыкулах, выданых у Менску, нажаль цяпер іх нельга знайсьці, але ёсьць панямецку выданая праца Алпатава М. і таго-ж Брунава Н., дзе знайходзяцца вартасныя весткі адносна нашых старых сьвятыняў, хоць абодва аўтары ёсьць расейцы — і ня маюць ніякіх пробеларускіх тэндэнцыяў.

Аб сьв. Сафіі там гаворыцца, што ў параўнаньні да кіеўскае і ноўгарадзкае «ў полацкай сьв. Сафіі зьвяртае на сябе ўвагу вялікая розьніца квадратаў перасячэньня падоўжнае і папярэчнае наваў і між квадратамі бочных наваў — тут розьніца квадратаў шмат меншая, як у Кіеве і Ноўгарадзе. Праз гэта прастор галоўнага купалу ня вырозьніваецца, а ўсё нутро будынку распадаецца на азначаны лік пастораў, якія мала розьняцца між сабою. Да таго ўканцы ўсходняга прастору апоры лукаў раздвоеныя; праўдападобна такое-ж раздваеньне было ў бочных прасторах; праз гэта ўнутры будынку ўвесь прастор і паасобныя яго дзяленьні павінны былі атрымаць перавагу перад галоўным прасторам і абходамі. Вонкавыя сьцены ў Полацку мацнейшыя, як у кіеўскай сьв. Сафіі».

«Галоўнымі сваеасаблівасьцямі полацкае сьв. Сафіі ёсьць ўсябочна сымэтрычная будова яе пляну, якая асягнена дадаткам аднаго прамежку да ўсходняга боку галоўнае часьці будынку і якога нідзе больш не сустракаецца ў пяцінаўных крыжакупальных сьвятынях на ўсім усходнеславянскім абшары. Першаўзорам да гэтага ёсьць канстантынопальскія тыпы сьвятыняў. Адгэтуль вынікаюць два вельмі важных выснаўкі: бочныя галерэі не дазваляюць уважаць нутра сьвятыні, як простую галю, у якой усе навы аднолькава высокія, а самая немагчымасьць уняць разам



**Плян катэдры сьв. Сафіі ў Полацку паводля І. М. Хозерава.**

увесь падзелены прастор, вытварае падзел нутра на цэлы рад доўгіх, вузкіх карыдораў, якія, крыжуюцца з сабою і твораць падоўжныя і папярэчныя навы, праз што прасторная суцэльнасьць стаецца рознаякай. Усходняя прамежка акрамя таго абумоўлівае сымэтрычнасьць вонкавага блёку будынку, у якім сярэдні квадрат акружаецца двума радамі праслаў, а ягоны цэнтр дакладна азначаецца сярэднім купалам. Аб тым, што даданьне ўсходняга прамежку служыла перадусім для сымэтрычнасьці будынку навонках, даказваецца групаю трох заходніх апсыдаў (потым зьнішчаных Л. Г.). ...Праз гэта было зусім скасавана выразнае накіраваньне галоўнае часткі ў напрамку апсыдаў, бачнае ў іншых падобных сьвятынях, і было заменена ўсябочным накіраваньнем да цэнтру, да якога так-жа накіроўваліся і апсыды.

Уканцы трэба заўважыць, што ўсе апсыды кантаватыя, праз гэта падобна, як галоўны бу-

дынак утвараецца роўнымі плошчамі, так сама моцна выступаюць плошчы галоўнае апсады. Групы апсыдаў былі вельмі шчыльна зьвязаны з корпусам будынку і паволі вырасталі з яго; яны ня зьнішчалі замкнёнасьці і цэласьці ўсяго будынку, творачы толькі ягоную ніжнюю частку, яму поўнасьцю падпарадкаваную».

«Групы апсыдаў і ўсходняя прамежка прыдаюць нутранаму прастору сьвятыні базалікальны характар і сьведчаць аб уплыве раманскага будаўнічага стылю. Катэдра сьв. Сафіі ў Полацку з яе раманскімі будаўнічымі асаблівасьцямі выяўляе пасьлядоўнае пераапрацаваньне пяцінаўных крыжакупальных сьвятыняў, якія прышлі сюды з паўдзённае Русі, надаючы ім форму масыўнага замкнёнага вежападобнага будынку, у якім суадносіны сьцённых пілястраў і апсыдаў да іхных адбочных плошчаў і стройнае сыстэмы нішаў, а так-жа тамбур купалу — усё гэта моцна падчырквае стоцьнасьць будовы. Тут першы раз сустракаюцца ў усходнеславянскім будаўніцтве так пасьлядоўнае ўжываньне стоцьнасьці для ўпарадкаваньня массы на вонках... У нутры катэдры сьв. Сафіі павінна была быць моцна азначаная вышыня, перадусім такім чынам, што малыя праслы ў пляне будынку былі ўзьняты вельмі высока, а так-жа дзякуючы зьменшанасьці дзеяньня сярэдняга квадрату — праз гэта збольшвалася значэньне крыжападобных філяраў і нутраных пілястраў супраць прастору будынку. Такім чынам у архітэктуры Полацку ўжо ў XI в. сьцьвярджаецца наступ старога народнага мастацтва. Пры гэтым здаецца, што народнае мастацтва было выхадным пунктам архітэктурнае творчасьці, якая ўжо мусіла мець разьвітую будаўнічую школу з удасканаленымі прынцыпамі».

Вельмі характэрна, што ў навейшых прынагадных зацемках савецкае літаратуры аб полацкай сьв. Сафіі чамусьці зусім абмінаецца моўчанкаю вышэйнаведзенае сьведчаньне Алпатава і Брунава, а самому Алпатаву робяць закід, што ён «не свабодны ад уплываў ідэалістычнага буржуазнага мастацтваведаньня».

Другім вельмі вартасным помнікам старога беларускага будаўніцтва ёсьць катэдра **сьв. Спаса** ў Сяльцы каля Полацку. Аб ёй захавалася больш вестак, як аб сьв. Сафіі, і яна сама з невялікімі перабудаваньнямі праіснавала да другое сусьветнае вайны, у часе якое была зруйнавана.

Найбольшая заслуга ў будове катэдры сьв. Спаса належыць сьв. Еўфрасіні-Прадславе. Кіраваў будоваю першы ведамы паіменна ў гісторыі беларускага будаўніцтва дойлід Іван з Полацку. Дата пабудовы дакладна ня ўсталена, але агульна прымаецца, што яна мусіла быць збудавана перад 1128 г. Што да апісаньня і архітэктурных сваеасаблівасьцяў гэтае сьвятыні, дык зноў зьвер-





**Катэдра сьв. Спаса і яе плян паводля М. Алпатава і Н. Брунава.**

немся да Алпатава і Брунава, якія студыявалі на мейсцы гэты старабеларускі помнік.

«Сьцены катэдры сьв. Спаса, а перадусім нутраныя слупы ў ёй надзвычайна тоўстыя, бо ляжачыя на іх лукі пераладаваныя празмерным цяжарам масыўнага пастамэнту, які мае форму чатырох трылопасных лукаў, накіраваных увысь: і толькі на гэтым пастамэнце ляжыць барабан купалу. Вонкавы выгляд будынку сёньня (зн. да 1942 г.) нажаль мала нагадвае першапачаткавую форму і мусіць быць заменены рэканструкцыяй. Успомнены вышэй пастамэнт ёсьць зусім сваеасаблівы. Падобнага да яго не спатыкаецца ні ў адной пабудове бізантыйскага, ані заходне-эўрапэйскага, ані ўсходняга мастацтва. Плян катэдры ёсьць «іконаграфычны», падобны да пляну царквы Дабравешчаньня ў Віцебску... але ў адмену ад гэтае апошняе катэдра сьв. Спаса мае знакі грубага будаўніцтва, на якім прымітыўныя рысы выціснены без параўнаньня мацней, чым у іншых усходнеславянскіх сьвятынях. Пераважаючае панаваньне масы над прасторам дзейнічае на будынак прыгноблююча. Сьцены ў ім нячувана тоўстыя..., а слупы яшчэ таўсьцейшыя, асабліва ўсходнія. Хоры ў абодвых кутавых прасторах адзьдзелены ад галоўнае часьці суцэльнаю сьцяною. Прысутнасьць пастамэнту робіць купальны барабан вельмі выцягнутым угару. Агулам прастор прыдушаны массаю і няма належных суадносін між нутраным прасторам і вонкавымі разьмерамі будынку. Нутраны прастор мае пячорападобны выгляд. Купальныя лукі шыршыя, чым рамёны крыжу; бочныя прасторы вузейшыя за масыўныя слупы. Бочныя навы толькі крыху шыршыя за сходы на хоры ў заходняй сьцяне. Першапачаткавая форма вокнаў яшчэ канчаткова не азначана, відаць



**Разрэз катэдры сьв. Спаса паводля А. М. Паўлінава.**

аднак, што яны былі вельмі маленькія. Тыпічнымі ёсьць першапачаткавыя маленькія крыжападобныя вакенцы пад скляпеньнем. З асаблівай энэргіяй падзелена нутраны прастор... Асабліва шырокія лукі дзеляць нутро на паасобныя «карыдоры», якія крыжуюцца з сабою пад простым кутом... Лукі між слупамі і вонкавымі сьценамі ніжэйшыя, чым скляпеньне, праз гэта паасобныя часьці прастору яшчэ больш адасобніваюцца і зьбліжаюцца да выгляду вузкае высокае шахты. Асабліва сярэдняя нава з высокім купальным барабанам, у выніку значнага перасуненьня на ўсход галоўнае апсады, рве лучнасьць усіх трох апсыдаў і кожная з іх унята, як закончаная ў сабе. Адсутнасьць бочных дзьвераў ёсьць знакам разьвязаньня дацэнтрычнага прасторабудаўніцтва».

Гэтае апісаньне зроблена чужынцамі і да таго ня вельмі прыхільнымі для беларусаў, але яно мае сваю вартасьць, як дакумант фахоўцаў. Для беларускага будаўніцтва катэдра сьв. Спаса важная тым, што ў ёй маем спробу зусім адменнага ўняцьця традыцыйнае схэмы крыжакупальных сьвятыняў. Пры тым дойлід асягае намечаную мэту. У яго ёсьць імкненьне якнайбольш выцягнуць будынак угару, дзеля гэтага ён вельмі ўзмацняе сьцены, але затое сьвятыня прымае вежападобны характар і мае акцэнт моцнага руху.

У суседзтве каля сьв. Еўфрасінінскага манастыра і катэдры сьв. Спаса, знаходзіўся мужчынскі манастыр, у якім той-жа дойлід Іван пабудаваў царкву **Прэсьвятое Багародзіцы,** але нажаль ані ад самога манастыра, ані ад царквы не асталося нават і сьледу. Сапуноў дагадваецца, што яна магла быць на мейсцы, дзе потым знаходзіўся касьцёл Ксавэрага на магільніку.

Той-жа самы дойлід Іван пабудаваў яшчэ **Барысаглебскую** царкву пры Бельчыцкім манастыры. Плян яе вельмі падобны да катэдры сьв. Спаса. Некаторыя дагадваюцца, што магчыма Барысаглебская царква была першаю будаўнічаю спробаю дойліда Івана. Нажаль ад гэтае царквы асталіся толькі руіны і тыя недасьледаваныя.

Пры тым-жа Бельчыцкім манастыры і праўдападобна той-жа дойлід Іван быў выбудаваў невялічкую **Пятніцкую** царкву. Гэта быў падаўгаваты будынак бяз слупоў — ад яго асталіся такжа толькі руіны.

У асобе дойліда Івана з Полацку беларускае рэлігійнае будаўніцтва мае вельмі вызначнага прадстаўніка, які пэўне-ж не зваліўся з неба; ён узгадоўваўся на розных ужо да яго існуючых узорах будаўніцтва, але ў сваёй творчай працы ён пракладае новы шлях для беларускага архітэктурнага стылю, прыспарае новыя формы для беларускае культуры і ўносіць паважны уклад у скарбніцу агульнага мастацтва. Ягоныя спробы прадаўжалі разьвіваць беларускія дойліды і дойліды суседніх народаў.

**а. Л. Гарошка.**

(Працяг будзе)

# ГАРОХ

(Казка з Пружаншчыны, якую часта можна было пачуць у часе Калядных вечароў).

Жыў, быў Дзед з Бабаю, гаралі яны жабаю, пасеялі гарох пад лаваю. Гарох узышоў, рос-рос і дарос да лавы. Выкінулі лаву. Гарох рос-рос і дарос да столі. Выкінулі столь. Гарох рос-рос і дарос да страхі. Скінулі страху. Гарох рос-рос і дарос да неба. Палез Дзед струкі рваць. Лез-лез і далез аж да неба ды глядзіць разглядаецца.

— Чаго хочаш? — у небе пытаюцца.

— А нічога, я струкі рваў, баба паслала, дык вось аж сюды далез. Павялі яго па неба, паказалі ўсё, пачаставалі, а на разьвітаньне даў яму Бог торбу золата.

Ідзе Дзед да хаты, рады, пяе, аж спатыкае чалавека, які пару валоў гоніць.

— Адкуль ідзеш такі вясёлы, дзеду?

— З неба! — І расказаў Дзед, як ён жыў з Бабаю, як гарылі яны жабаю, як гарох сеялі пад лаваю, як ён палез струкі рваць і далез да неба, як яго там прымалі, і як яму Бог торбу золата даў.

— Торбу золата, кажаш, маеш?

— Але, — кажа Дзед.

— Нашто яна табе, дзеду, памяняй на мае валы, ня будзеш больш гараць жабаю.

Падумаў Дзед, падумаў, ды-й памяняў.

Гоніць валы дарогаю папасвае ды пяе, аж насупраць едзе чалавек верхам на кані і пытае:

— Скуль валы гоніш такі вясёлы, дзеду?

І расказаў Дзед, як ён жыў, як на неба папаў, як торбу золата на валы прамяняў.

— Нашто табе, дзеду, валы? Памяняй на майго каня, ня будзеш пешкі хадзіць. — Падумаў Дзед, падумаў і памяняў.

Едзе Дзед на кані ды падсьпеўвае, а насустрач яму чалавек карову вядзе.

— Скуль едзеш такі вясёлы, дзеду?

— З неба! — І расказаў Дзед пра гарох і пра торбу золата.

— Нашто табе, дзеду, конь? Памяняй на маю карову, будзеш малако піць, а баба масла біць, сыры ляпіць.

Падумаў Дзед, падумаў і памяняў.

Вядзе Дзед карову ды-й аблізваецца на ўспамін сыра ды масла, ды падсьпеўвае, аж на сустрач яму чалавек япрука гоніць.

— З кірмашу йдзеш, дзеду, кароўку купіў, такі вясёлы?

Ледзь не разгневаўся Дзед і расказаў, як ён з Бабаю жыў, як у неба папаў, што там бачыў, як торбу золата выменяў.

— Нашто табе, дзеду, карова? Сена ня маеш, чым карміць зімою будзеш? Памяняй на майго япрука, заколеш яго, будзеш мець і сала і каўбасы.

Падумаў Дзед, падумаў, ды-й памяняў.

Гоніць Дзед япрука дарогаю ды падсьпеўвае, рады, што каўбасаў дажыўся, аж на спатканьне яму чалавек барана гоніць.

— Скуль, дзеду, такі вясёлы? — пытае.

І расказаў Дзед, як ён жыў, як у небе быў і як япрука мае.

— Нашто табе, дзеду, япрук? Памяняй на майго барана, будзеш і мяса мець і скуру на кажух.

Падумаў Дзед, падумаў і памяняў.

Гоніць Дзед барана, ды-й падпявае. Насустрач чалавек гусака нясе.

— Скуль, дзеду, ідзеш такі вясёлы?

І расказаў Дзед, як ён жыў, як у небе быў, як торбу золата Бог даў і як ён яе прамяняў.

— Нашто табе, дзеду, баран? Ты стары, у лес не паедзеш, дык і кажуха ня трэба! Памяняй на гусака і мяса будзеш мець і пуховую падушку пад галаву.

Падумаў Дзед, падумаў і памяняў.

Нясе гусака, ды-й прыпявае. Спатыкае чалавека з пеўнем.

— Скуль, дзеду, такі вясёлы?

І расказаў Дзед пра неба і пра торбу золата.

—Нашто табе, дзеду, гусак? Памяняй на пеўня. Будзе табе рана пяяць, будзеш рана ўставаць, а хто рана ўстае, таму Бог дае.

Падумаў Дзед, падумаў і памяняў.

Нясе Дзед пеўня і прыпявае, аж на сустрач жанчына на кірмаш ідзе, у кошыку яйкі нясе.

— Скуль, дзеду, такі вясёлы?

І расказаў Дзед, як ён жыў, як у неба папаў, як Бог торбу золата даў, як ён яе прамяняў.

— Нашто табе, дзеду, певень? Будзе рана пяяць, будзе спаць не даваць, а ты стары, на каго табе працаваць? Памяняй на яйкі, дык яечні напячэш!

Падумаў Дзед, падумаў і згадзіўся. Палажыла яму жанчына дзесятак яек у шапку, ды-й пашоў Дзед прыпяваючы да хаты.

А Баба яго рада сустрэла, бо ўжо і выглядала і гукала, і баялася, ці што благое ня сталася, а тут бачыць, Дзед рады, прыпявае ды поўну шапку яек мае.

— Дзе-ж ты іх узяў?

Тут Дзед расказаў, як ён у неба трапіў, як яму Бог торбу золата даў і як ён яе прамяняў.

Калі ўзлавалася Баба, калі кінецца на Дзеда з кулакамі:

— Ах, ты, такі, ах, ты, сякі! — ды-й малоціць старога. Яйкі ўпалі і разьбіліся, а Баба за качаргу ды за Дзедам. Той, бедны, у кут, як уціснуўся, дык і ня чуў, калі Баба качаргу аж да рук пабіла.

— Цяпер, — кажа, — сама пайду ў неба па торбу золата!

І палезла Баба па гаросе. Лезла-лезла цэлую ноч і на росьсьвітках уткнула галаву ў неба і гукае:

— Го-го! сьвятыя, годзе спаць. Майго дзеда дарогаю абдурылі, ні рубельчыка на'т на паказ да хаты ня прынёс. Глядзеце, каб тых ашуканцаў ні на парог у неба ня пусьцілі, хай у пекле смажацца, такія яны, ды сякія.

Зьявіўся нейкі сьвяты, ды-й просіць Бабу, каб так не гаманіла, бо 'шчэ ў неба ўсе сьпяць і анёлы, і сьвятыя. Але дзе там, Бабу ня ўняць.

— Я, — кажа, — старая цэлую ноч лезла, а тут яшчэ ня выспаліся, — ды-й давай яшчэ мацней гарланіць. Просіць яе сьвяты, каб усьціхамірылася, ды толкам расказала, чаго хоча. Але дзе там! Баба так разышлася, што на сьвятога, як на свайго дзеда, ці на суседку Алесю, з кулакамі кінулася. Забылася ў сваім гневе, што трэба за гарох трымацца, каб ня ўпасьці. Пусьцілася, ды-й паляцела ўніз. Падаючы, усе сваe ліхія костачкі пагубіла і па сьвеце пасеяла. І падаюць яны градам і людзям дабро нішчаць.

А Дзед, тымчасам, ачуняў, нарваў гароху, наварыў ды-й чакае Бабу есьці...

Расказала бабулька **Н. Расы.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## САПРАЎДНАЯ НАВУКА ПАСТУПОВА АДКРЫВАЕ БОГА.

Падчас адкрыцьця новага акадэмічнага году Папскае Акадэміі Навук Сьвяцейшы Айцец Пій XII прамаўляў да Кардынальскае Калегіі — праводная тэма гэтае прамовы была: Адносіны навукі да Бога.

Ад пачатку да канца прамова Сьвяцейшага Айца мае глыбокі багаслоўскі і навуковы характар. Вось некаторыя мейсцы з першае часткі прамовы:

«Выглядае так, што сучасная навука, пастулаючы ўпярод на працягу вякоў, сьведчыць цяпер на карысьць пачатковага біблійнага сказу: «Хай станецца сьвятло!», сказанага ў тым мамэнце, калі матэрыя зьявілася з нічога разам з морам сьвятла, праменяваньня і калі замігцелі ў мільёнах нябесных сузор'яў хімічныя элемэнты».

Наступна Найвышэйшы Архіпастыр зьвярнуў увагу на сучасны стан атамічных досьледаў, разьбіцьцю атому і ягонай будове.

«Усё паказвае на тое, што матэрыяльны сусьвет меў бесканечна магутны пачатак, з якога ўзяў неапісальную колькасьць запасу энэргіі, з якою ён спачатку хутка разьвіваўся, а потым паступова спавольніваў свой развой аж да сучаснага стану».

«У меру свайго развою, якраз дзякуючы свайму поступу, сапраўдная навука, адваротна, як гэта было калісь, адкрывае Бога паступовым спосабам, быццам Бог знайходзіцца за кожнымі адзьвярыма, якія адчыніла навука».

Далей Сьвяцейшы Айцец канкрэтна паказаў, як выглядаюць доказы на існаваньне Бога, пададзеныя сьв. Тамашом Аквінскім, у сьвятле навейшых навуковых адкрыцьцяў і ўканцы падчыркнуў, што дзякуючы здабыцьцям мадэрнае навукі так у мікракосмасе, як і ў макракосмасе паглыблена і пашырана асновы, на якіх апіраюцца некаторыя доказы існаваньня Бога.

## МАЦІ І ДЗЕЦІ.

Уканцы кастрычніка г.г. Сьвяцейшы Айцец прамаўляў да італьянскіх акушэрак падчас іхняга кангрэсу ў Рыме. У сваёй прамове Ён падчыркнуў з асаблівым націскам неабходнасьць захаваньня навукі Каталіцкае Царквы ў справе рэспэктаваньня людзкога жыцьця, ў якой-бы стадыі разьвіцьця яно не знаходзілася. Між іншым Сьвяцейшы Айцец даслоўна сказаў: «Ніякі чалавек, ніякая ўлада, ніякая эўгэніка, ніякія мэдыцынскія, сацыяльныя або эканамічныя, ці маральныя прыпісы ня могуць даць праўна важнага тытулу, дазваляючага ўмысна і ўпрост накіравана зьнішчыць нявіннае людзкое жыцьцё».

Гэтая прамова выклікала вельмі шырокі розгалас на старонках прэсы і розныя камэнтары ды засьцярогі з розных асяродкаў. Асабліва незадаволеныя галасы пачуліся з пратэстанцкіх кругоў.

Дзеля гэтага прамаўляючы ўканцы лістапада да сяброў сямейнага фронту Сьвяцейшы Айцец парушыў зноў папярэднюю тэму і адказаў на памылковыя закіды адносна прамовы да акушэрак. Гэтым разам Ён з асаблівым націскам падчыркнуў, што Каталіцкая Царква не дазваляе ніякіх абортаў, «якія ўмысна і ўпрост робяцца для зьнішчэньня дзіцяці», але што Царква «ніколі і ў ніякім выпадку не навучала быццам жыцьцё дзіцяці больш вартаснае, чым мацеры. Так ставіць пытаньне ў форме альтэрнатывы: або жыцьцё мацеры, або жыцьцё дзіцяці — ёсьць памылкаю, бо ані жыцьцё дзіцяці, ані жыцьцё мацеры ня можна зьнішчыць наўмысьля. У адным выпадку, як і ў другім ёсьць толькі адна рэч, якую можна вымагаць: трэба зрабіць усё магчымае, каб выратаваць жыцьцё абодвых: маці і дзіцяці...»

«Калі для ратаваньня жыцьця будучае маці, незалежна ад стану бярэменнасьці, былі-б патрэбны нейкія хірургічныя захады, або нейкія іншыя тэрапэўтычныя сродкі, якія могуць мець, як пабочны, але ў ніякім выпадку жаданы, ці намераны, аднак непазьбежны вынік, сьмерць плоду, такі акт ня можа ўважацца, як просты напад на нявіннае жыцьцё. У гэтых умовах апэрацыя можа быць дазволеная...»

З асаблівым націскам паўтораныя некалькі разоў словы «простае» і «ўмыснае зьнішчэньне» нявіннага жыцьця, кажуць выразна, што забараняе Каталіцкая Царква.

Варта зацеміць, што з гэтае нагоды выдатныя гінэкалёгі апублікавалі рад артыкулаў, у якіх сьцьвярджаюць, што ў сучасным стане мэдыцынскае веды вельмі рэдкія такія выпадкі, дзе неабходна перарваць бярэменнасьць для ратаваньня жыцьця маці. Як бачым становішча сучаснае мэдыцыны да парушанае тэмы, мала чым розьніцца ад Каталіцкае Царквы.

## ВАТЫКАНСКАЕ БЮРО ЭМІГРАЦЫІ.

У лістападзе г.г. Сьвяцейшы Айцец вызначыў у лоне Сьвятое Калегіі спэцыяльную дэлегатуру для эміграцыі. Заданьнем новае ўстановы ёсьць узгодніваць стараньні Царквы ў справе помачы эміграцыі ўва ўсіх краінах. Кіраўніком новае ўстановы назначаны монс. Эміліо Россі.

## МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС УЗГАДАВАЎЦАЎ.

У мінулым месяцы адбыўся ў Рыме першы міжнародны кангрэс каталіцкіх узгадаваўцаў, на

якім удзельнічалі прадстаўнікі 12 краінаў. Праводная тэма Кангрэсу была: «Аснова ўзгадаваньня ў сьвятле хрысьціянскіх прынцыпаў».

### ВЫЗВАЛІЛІ АРХІБ. СТЭПІНАЦА.

Пасьля доўгіх перагавораў югаславянская камуністычная ўлада 6-XII вызваліла з турмы Я. Э. Алёіза Стэпінаца архібіскупа Загрэбу, засуджанага ў 1946 г. на 16 гадоў турмы. Аднак вызваленьне ня ёсьць поўным, бо Я. Э. Стэпінацу забаронена ягоная архіпастырская праца.

Некалькі дзён перад тым вызвалена з турмы праваслаўнага мітр. Юсіфа Скоплянскага і дазволена яму заняць свой мітрапалічы пасад.

Абодва гэтыя вызваленьні камуністычная ўлада зрабіла быццам, як амністыю з нагоды 6-ых угодкаў устанаўленьня югаслаўскае рэспублікі. Агулам з амністыі скарыстала поўнасьцю, або часткова 2.400 вязьняў. Такім актам сучасная тітаўская камуністычная ўлада мае на мэце здабыць сабе прыхільнасьць масаў.

### ДЫПЛЁМАТЫЧНЫ ЗЬВЯЗОК ЯПОНІІ З ВАТЫКАНАМ.

Нядаўна у Токіо японскі віцэ-міністар замежных спраў Содуо-Ігуші і апостальскі дэлегат монс. Фюрстэнбэрг падпісалі акт дыплёматычных зьвязкоў між Японіяю і Ватыканам.

### ВЕСТКІ З ЧЭХАСЛАВАЧЧЫНЫ.

Палажэньне каталікоў у Чэхаславаччыне ўвесь час пагаршаецца. Да розных адміністрацыйных мерапрыемстваў ў прасьледаваньні духавенства і вернікаў далучаюцца розныя хітрыкі і подступы. На мейсца арыштаваных сьвятароў, камуністычная ўлада высылае сваіх пераапраненых агэнтаў, так званых «сьвятароў патрыётаў», але на багаслужэньнях гэтых «патрыётаў» сьвятыні пустуюць, затое вернікі шчыльна запаўняюць сьвятыні на багаслужэньнях верных каталіцкіх сьвятароў. Такое зьявішча для камуністаў вельмі няпрыемнае, дзеля гэтага яны праз свае «Царкоўныя ўправы», якія ўтворана на мейсца арыштаваных біскупаў, часта пераносяць сьвятароў з мейсца на мейсца, каб змыліць вернікаў.

### ПРАСЬЛЕДВАНЬНЕ КАТАЛІКОЎ У КІТАІ.

На працягу гэтага году камуністычная кітайская ўлада выселіла з Кітаю каля тысячы каталіцкіх місіянароў, у гэтым ліку 9 біскупаў, да таго 19 біскупаў увязьнзена.

### ВЫЗНАЧНЫЯ ЎГОДКІ ЗАСНАВАЛЬНІКА ХРЫСЬЦІЯНСКАЕ ДЭМАКРАТЫІ.

Старэнькі каталіцкі італьянскі сьвятар Люіджі Стурцо апошнім часам мала каму быў ведамы і жыў спакойным жыцьцём у адным з манастыроў на прадмесьці Рыму. Але вось 24 лістапада, калі яму споўнілася 80 гадоў жыцьця, амаль ўся прэса вольнага сьвету прысьвяціла яму большыя або меншыя артыкулы, а дзяржаўныя мужы ўсяго сьвету, якія ў сваім дзеяньні кіруюцца прынцыпамі хрысьціянскае дэмакратыі пастанавілі ўшанаваць 80-ыя ўгодкі а. Стурцо ўрачыстаю акадэміяю ў Рыме, бо ён зьяўляецца адным з найбольш вызначных піянэраў хрысьціянскае дэмакратыі.

### ЦУДЫ Ў ЛІБАНЕ.

Нядаўна ў Рыме распачаўся бэатыфікацыйны працэс пабожнага мароніцкага манаха а. Шабрэля Махлуф, які жыў, як пустэльнік, у пустэлі сьв. Пятра і Паўла недалёка ад мараніцкага манастыра сьв. Марона і там памёр у 1898 г., у веку 60 гадоў. Яго пабожнае жыцьцё і шчырая праца былі заўсёды сьветлым прыкладам для манахаў, але хутка да прыкладнага жыцьця далучыліся яшчэ іншыя надпрыродныя знакі, якія зьвярнулі асаблівую ўвагу на асобу памёршага. Калі нейкі час пасьля сьмерці а. Шабрэля навальніца размыла магільнік, на якім ён быў пахаваны, і павыкідала некаторыя трупы, дык цела а. Шабрэля знойдзена зусім несапсаваным і пахавана ў манастырскай крыпце і замуравана, але там праз сьцены дамавіны і мур магілы з цела пачала прасочвацца нейкая асаблівая вадкасьць. Ля цела а. Шабрэля пачалі дзеяцца шматлікія цуды. У манастыр сьв. Моруна айцоў антоніянаў мараніцкага абраду, да якога належаў а. Шабрэль, пачалі наплываць паломнікі ня толькі з Лібану, але так-жа з Сірыі, Эгіпту, Турцыі, Грэцыі, Італіі і нават Гішпаніі і інш. краінаў. Характэрна што да а. Шабрэля зьвяртаюцца з мольбамі аб заступніцтве ня толькі каталікі, але так-жа праваслаўныя і нават магомэтане.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

### БАЦЬКАЎШЧЫНА.

**Найстарэйшая менская сьвятыня.**

Раскопкі на менскім замчышчы, якія вядуцца ўжо пяты год, выкрылі між іншым вельмі вартасную памятку беларускае старасьвечыны — фундамант каменнае царквы з XII в. Форма царквы трынаўная. Збудаваная яна была з колатых каменьняў. Ніжняя часьць сьцен была таўшчынёю ў 1,5-1,6 м. Верхнія часткі сьцен былі абліцаваныя абчэсанымі вапняковымі пліткамі.

Археалёгі і гісторыкі дагадваюцца, што гэтую царкву збудаваў першы менскі князь Глеб Усяславіч (1101-1119), але яна прастаяла нядоўга,

бо праўдападобна была разбурана разам з усім горадам кіеўскім князем Уладзімерам Манамахам (1113-1125).

Весткі аб раскопках падаў В. Р. Тарасенка ў савецкіх часапісях: «Беларусь» Нр. 3 (79), 1951 г. і «Кратк. Сообщ. ИИМК АН СССР» Вып. XXXV.

### У савецкай Царкве на Беларусі.

Ад 1947 г. у Жыровіцкім праваслаўным манастыры існуе т. зв. «Менская Духоўная Сэмінарыя». Сёлета 12 чэрвеня там адбываўся ўжо трэці з чаргі выпуск «сэмінарыстаў» у ліку 26 чалавек. Гэта ўжо савецкія «духоўныя», якія маюць замяняць старэйшых духоўных.

У Пінску цяперашні яп. Паісій (Образуев) сёлета ўрачыста азначаў саракавыя ўгодкі свайго сьвятарства. З гэтае нагоды на ўрачыстасьцях былі сказаны характэрныя для савецкіх абставін прамовы. Сам юбілят між іншым у прамове падчыркнуў сваю гатоўнасьць «аддаць усе свае сілы на службу Расейскае Праваслаўнае Царквы і праваслаўнае Бацькаўшчыны». Аб Беларусі разумеецца і ўспаміну ня было. (ЖМП Нр. 8. 1951).

## БЭЛЬГІЯ.

### Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

Беларуская калёнія ў Лювэне азначыла 31-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня ўрачыстаю Службаю Божаю і паніхідаю за палеглых змагароў, якія адправіў а. Аўгень Смаршчок у беларускай праваслаўнай капліцы ў Лювэне дня 2 сьнежня. Папалудні таго-ж дня ў Беларускім Студэнцкім Доме адбылася ўрачыстая акадэмія. Адчыніў ея старшыня ЗБС В. Рамук. Затым студэнцкі хор адсьпяваў жалобны марш «Сьпі пад курганам гэрояў». Наступна прамаўляў а. Робэрт, — ён у гарачых словах падчыркнуў значэньне ахвяры жыцьця і ахвяры працы на карысьць бацькаўшчыны, праз гэткія ахвяры нямінуча даходзіцца да так высокіх ідэалаў, як незалежнасьць бацькаўшчыны.

Выступленьні студэнцкага хору і дэкламацыі злажыліся на мастацкую частку акадэміі, а закончылі яе адсьпяваньнем малітвы «Магутны Божа!»

## ГІШПАНІЯ.

### Рэфэрат аб Беларусі.

Вечарам 8-га сьнежня г.г. у рамах дзейнасьці гішпанскае арганізацыі «Круг Эўрапэйскага Культурнага Узаемаабмену» студэнт Мадрыдзкага унівэрсытэту Ул. Рыжы-Рыскі прачытаў рэфэрат для сяброў успомненага Кругу на тэму: «Беларусь учора і сёньня». Дакладчык выклікаў вялікае зацікаўленьне ў гішпанцаў беларускімі праблемамі, з якімі, як выявілася ў дыскусіі пасьля рэфэрату, гішпанцы сустракаюцца першы раз і ўпяршыню мелі нагоду пачуць ад беларуса хоць у галоўных рысах гісторыю і змаганьне ў мінулым і ў сучаснасьці беларускага народу за сваю незалежнасьць.

## З. Ш. А.

### Шостая сэсія Рады БНР.

Ад 28-га кастрычніка г.г. трывае ў Нью-Ёрку праца шостае з чаргі сэсіі Рады БНР. Першым і найважнейшым пытаньнем парадку для ёсьць справа належнага становішча беларусаў адносна дэклярацыі т. зв. «Союза Освобождения Народов России» (СОНР). У гэтай справе Рада БНР ужо выдала сваю пастанову, ў якой зазначаецца, што беларусы вітаюць усялякую ініцыятыву утварэньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам, але адначасна ставіцца ўмову, што Рада ўпаважнівае свае органы ўключацца толькі ў такія фронты, у якіх «прызнаецца наўзаем, уваходзячым у гэты блёк народам, бязумоўнае і без усялякіх засьцярогаў роўнае права, як народам. Выключаюцца якія-б то ні былі прывілеі якога-б то ні было народу, уваходзячага ў гэты блёк, ці то абапёртыя на лічбовай перавазе насельніцтва таго ці іншага народу, ці на прывілеях, здабытых у мінулым, з якіх дадзены народ карыстаўся дзякуючы фізычнаму паняволеньню слабейшых народаў» і калі ўвайходзячыя ў блёк народы, прызнаюць сувэрэннасьць Беларусі ў этнаграфічных межах, абвешчаную актам 25-III-1918 г. Усякія адхіленьні ад гэтых умоваў для свае важнасьці вымагаюць ратыфікацыі Рады БНР. Рада «адхіляе поўнасьцю плятформу 5-ёх расейскіх-партыяў, прапанаваную ў форме «Союза Освоб. Народов России», як не даючую ніякіх падставаў для дыскусіяў дзеля ўтварэньня супольнага фронту змаганьня з бальшавізмам», але дазваляе сваім прадстаўніком удзельнічаць у конфэрэнцыях народаў СССР для выпрацаваньня новае плятформы супольнага фронту, але не ўпаважнівае сваіх дэлегатаў падпісваць дэклярацыі, пакуль не асягнецца прызнаньне вышэйназваных умоваў.

### Зьезд беларускіх студэнтаў.

Перад пачаткам акадэмічнага году сёлета ў верасьні адбыўся ў Нью-Ёрку Зьезд беларускага студэнцтва ў З.Ш.А. Справаздача ўступаючае ўправы выказала, што рады беларускіх студэнтаў у З.Ш.А. папаўняюцца новымі сябрамі і арганізацыйная праца разьвіваецца памысна, перамагаючы розныя перашкоды на сваім шляху. Уканцы выбрана новую ўправу ў такім складзе: старшыня — Б. Данілюк, сябры ўправы В. Русак і Г. Ганчарэнка.

## КАНАДА.

### Лектарат Беларусаведы ў Торонто.

На факультэце славяназнаўства канадыйскага унівэрсытэту ў Торонто сёлета 15 кастрычніка адчынена лектарат беларусаведы. Лектарам назнача-

ны праф. Вінцэс Жук-Грышкевіч. Гэта першы лектарат беларусаведы ў Амэрыцы, дык яму зусім слушна належыць вялікае прызнаньне.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### За душы гэрояў.

На запрошаньне невялікае групы беларусаў у лягэры Розэнгайм украінскі грэка-каталіцкі сьвятар Сьцяпан Хіроўскі адслужыў дня 4-га сьнежня ў лягэрнай капліцы Службу Божую і паніхіду за душы слуцкіх паўстанцаў. Пры гэтай нагодзе сказаў шчырае слова да прысутных на багаслужэньні беларусаў аб ахвярнай любові бацькаўшчыны.

### На выдавецкай паліцы.

У выдывецтве ЗБП нядаўна вышла ратататарным друкам невялікая кніжка «Праз сьлёзы» Ю. Жывіцы. Гэта зборнік невялікіх патрыятычных апавяданьняў, артыкулаў і дробных абразкоў з жыцьця.

## ФРАНЦЫЯ.

### Багаслужэньне па загінуўшых.

На пярэдадні задушнага дня сабраліся беларусы з Парыжу і ваколіц на магільнік Тіе ля магілы аднаго з сваіх суродзічаў, каб памаліцца за ўсіх тых нязьлічаных беларускіх змагароў, якія злажылі сваё жыцьцё ў ахвяры за незалежнасьць Беларусі і якія загінулі ад тэрору варожых уладаў. Паніхіду за іх душы адслужыў а. Леў і заклікаў прысутных, да шчырае малітвы, каб Бог прыняў ахвяры змагароў і прысьпяшыў дзень ажыцьцяўленьня тых ідэяў, за якія гэтыя ахвяры зложана.

### Даклад аб Беларусі.

На запрошаньне групы француского Гуртка Студыяў Замежных Краінаў у Вэзінэ дня 26-XI М. Наумовіч зрабіў інфармацыйны даклад аб Беларусі для сяброў гуртка. Пры гэтай нагодзе прысутныя мелі магчымасьць пачуць пару беларускіх песень у выкананьні В. Жаўняровіча.

### У памяць слуцкіх паўстанцаў.

31-ыя ўгодкі Слуцкага Паўстаньня беларусы з Парыжу азначылі ўрачыстаю Службаю Божаю і паніхідаю за душы палеглых змагароў, якія адслужыў рэктар Беларускае Місіі дня 25 лістапада ў беларускай капліцы пры царкве Сан Сюльпіс. Папалудні таго-ж дня адбылася акадэмія ў памешканьні СФТС. Адчыніў акадэмію ўступным словам М. Наумовіч, наступна ўдзельнікі Слуцкага Паўстаньня А. Яцэвіч і інж. Л. Рыдлеўскі падзяліліся з прысутнымі сваімі ўспамінамі. На далейшую праграму злажыліся прынагадныя дэклямацыі. Закончана акадэмію адсьпяваньнем гымну.

### З жыцьця беларусаў у Ля Крэзо.

Ува ўсіх большых гарадох Францыі ўрачыста азначаецца дзень заканчэньня першае сусьветнае вайны 11-га лістапада. Хоць для беларусаў гэты дзень нічога добрага ня прынёс, але ахвяраў у той вайне беларусы злажылі ня менш за іншых. Дзеля гэтага сёлета беларусы з Ля Крэзо пастанавілі ўдзельнічаць у вялікім паходзе праз горад. З іншых нацыянальнасьцяў, акрамя французаў, ў паходзе йшлі яшчэ украінцы і палякі. Таго-ж дня беларусы злажылі вязанку кветак з беларускаю нацыянальнаю стужкаю на магіле няведамага жаўнера.

### Угодкі Слуцкага Паўстаньня.

Беларусы з Ля Крэзо для ўшанаваньня памяці Слуцкага Паўстаньня сабраліся 25-XI ў салі «Сосіетэ» на мэроўстве. Распачаў урачыстасьць старшыня мяйсцовае філіі беларускае сэкцыі СФТС Бр. Нагорны і пасьля ўсе прысутныя адсьпявалі «Беларусь, наша маці краіна». Рэфэрат аб Слуцкім Паўстаньні прачытаў М. Булыга. Наступна віталі беларусаў прадстаўнікі: Украінскае Еднасьці і Таварыства Ваякаў УНР. На мастацкую частку праграмы злажыліся: дэклямацыі вершаў, гра 6-і гадовага беларуса на баяне і сьпеў патрыятычных песень. Закончылася ўрачыстасьць адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гымну. Для усіх удзельнікаў урачыстасьць была прыгожым доказам жывучасьці беларускага вызвольнага руху.

---

## ПАПРАЎКА.

У папярэднім нумары нашага часапісу ў разьдзеле «Бібліяграфія» на стр. 12 у артыкуле «Праваднік славянскіх моваў »укралася памылка. Праф. Р. дэ Брэй ёсьць прафэсарам ня Лювэнскага, а Лёнданскага унівэрсытэту.

## СПРАВА ПАДПІСКІ.

У зьвязку з вялікаю падвышкаю цаны паперы, а так-жа друку і паштовае перасылкі рэдакцыя «Божым шляхам» змушана падвышшыць цану аплаты за часапіс. Новыя цэны паданы на пачатку часапісу на вокладцы. Адначасна рэдакцыя зьвяртаецца да тых чытачоў, якія залягаюць з аплатаю за часапіс, каб як найхутчэй выраўнялі свае залегласьці. **Рэдакцыя.**

## НА ФОНД «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» І ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «ДОБРАЕ КНІЖКІ».

Апошнім часам прыслалі:

Бру-віч П. 600 фр., Грын-віч С. 350 фр., Зан-віч М. 700 фр., Зах-нак С. 500 фр., Кач-н У. 300 фр., Кар-скі М. 840 фр., Каш-ян У. 400 фр., Літ-ак Э. 100 фр., Міц-іч В. 300 фр., Мяц-ца М. 700 фр., Пуз-скі З. 400 фр., Сар-ка В. 450 фр., Чар-кі Я. 870 фр., Юзэфовіч Г. (група Аргэнтына) 2.240 фр., Яс-віч Я. 500 фр., Яцкевіч Д. (група Аўстралія) 3.900 фр.

Gérant : D. Kucopej. Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris Directeur : Abbé L. Horosco.

# Абразкі з жыцьця

## «МЕЙ КРЫШКУ ЦЯРПЛІВАСЬЦІ».

Аднойчы на Вялікдзень раніцаю Ньютон праходжваўся з сваімі вучнямі за горадам. Калі яны міналі магільнік, адзін з вучняў спытаў Ньютона з насьмешкаю:

— Настаўнік, хто можа верыць, што пыл па гэтых пакойніках некалі зноў станецца жывым целам?

— Мей крышку цярплівасьці, — адказаў Ньютон.

Падчас найбліжэйшага практыкаваньня з фізыкі Ньютон загадаў прынесьці жменю зялезных апілкаў і зьмяшаў іх з зямлю, а потым зьвярнуўся да насьмешніка:

— Хто можа вызьбіраць гэтыя пылінкі зялеза з зямнога пылу?

Калі запытаны ня ведаў, што адказаць, Ньютон узяў магнэс і зблізіў да мешаніны. У міг мешаніна быццам ажыла, заварушылася і момііг зялезныя апілкі сабраліся на магнэсе. Тады настаўнік глянуў сур'ёзна на насьмешніка, потым на іншых вучняў і сказаў:

— Той, Хто даў такую сілу няжывому магнэсу, ці-ж ня можа даць большае сілы нашай душы, калі ёй некалі ў часе ўваскрасеньня будзе патрэбна акрыцца ўслаўленым пылам?

Паводля «Каталішэр Дігэст» Нр. 11.

## ХТО НАЙШЧАСЬЛІВЕЙШЫ?

Аднойчы францускі кароль Карло IX пытаўся славутага італьянскага паэта Торквато Тассо:

— Хто, паводля твае думкі, найшчасьлівейшы на сьвеце?

— Бог, — адказаў паэт.

— Добра, добра, але між людзьмі хто?

— Той, хто найбольш прыпадобніваецца Богу.

— Хто-б такім не хацеў быць! Але, што нас найбольш прыпадобнівае да Бога? Ці сіла, ці ўлада? — пытаўся далей кароль.

— Ні адно, ні другое, — адказаў паэт, — але толькі цноты.

## ДЗЕ?

Брандэнбурскі кароль Фрыдрых Вялікі аднойчы зайшоў у пачатковую школу і трапіў якраз на ўрок геаграфіі. Паслухаўшы нейкі час выкладу, ён пачаў пытацца вучняў. Найменшага хлапчыну ў клясе ён пытаўся, дзе знаходзіцца яго родная вёска?

— У Прусіі, — бойка адказаў вучань.

— А дзе знаходзіцца Прусія? — пытаўся далей кароль.

— У Нямеччыне.

— А дзе знаходзіцца Нямеччына?

— У Эўропе.

— А дзе знаходзіцца Эўропа?

— На зямной кулі.

— Добра, а дзе-ж знаходзіцца зямная куля?

Хлапчына крыху падумаў, а потым бадзёра адказаў:

— У Божых руках!

## ДЗІЎНАЕ ЗДАРЭНЬНЕ.

Падчас другое сусьветнае вайны на італьянскім абтоку Сардынія здарыўся такі выпадак. Аднойчы селянін ішоў у горад Кольліері і трапіў пад бамбардыроўку амэрыканскіх самалётаў. Блізка каля яго разарвалася бомба і так няшчасна, што яго зусім засыпала зямлёю. Палажэньне селяніна было безнадзейным, бо пагражала сьмерць ад задушэньня. У гэткім стане аднак няшчасны ня ўпаў у адчай, але пачаў горача маліцца да Бога і да Найсьвяцейшае Дзевы, просячы ратунку хоць-бы цаною цуда. Калі ўжо няшчасны пачаў задыхацца ад нястачы паветра, наступіў другі налёт і недалёка ад мейсца, дзе быў прысыпаны селянін, разарвалася другая бомба і выкінула яго на некалькі мэтраў у бок. Ачуняўшы, селянін сам дзівіўся, што пасьля двох так блізкіх выбухаў ня быў ані ранены, ані кантужаны і шчыра дзякаваў Богу за выслуханую малітву.

## ВЫМОЎНАЕ СЬВЕДЧАНЬНЕ.

Ведамы сучасны гішпанскі мастак Сальвадор Далі нядаўна, прыехаўшы ў Лёндан, з нагоды адкрыцьця там выстаўкі ягоных абразоў, на запрошаньне прадстаўнікоў прэсы, выказаў свой пагляд, што агульна ведамы мастак-кубіст Пікассо магчыма хутка вырачацца камунізму.

Агулам Далі прадбачвае на працягу найбліжэйшага дзесяцігодзьдзя вялікае адраджэньне містычнага мастацтва. Гэтае адраджэньне ён абасноўвае на той духовай эволюцыі, якую прайшоў сам.

«Калісь я быў закруціў сабе галаву фрэўдызмам, але мадэрная фізыка, — я хачу сказаць атамная фізыка і разьбіцьцё матэрыі, — мяне скіравалі да містыкі. Я веру, што мы знаходзімся на парозе агульнага наверненьня да рэлігіі».

## КОЖНЫ МАЕ СВОЙ КРЫЖ.

У адной беларускай вёсцы ў 1935 г. адбывалася місія. Людзі праз цэлы тыдзень уважна слухалі навукаў прыезнага місіянара, а ўканцы, каб мець памятку з місійнага тыдня, грамадна пасьвячвалі мэдалікі, іконкі і крыжыкі, сабраўшыся вялікім паўколам каля царквы; місіянар праходзіў перад імі з крапільніцай і сьвянціў дэвацыяналіі. Толькі адзін дзябёлы мужчына стаяў скраю ад грамады за сваею невялічкага росту жонкаю і нічога ня трымаў у руках. Калі да яго падышоў місіянар, ён раптам ухапіў у свае моцныя рукі сваю жонку, узьняў яе і сказаў: «Ойча, пасьвянцайце мой крыж!»